PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1840) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 18 ЖНІЎНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



## НОВАЯ ЦАРКВА НА ГРАБАРЦЫ



12 ліпеня 1990 года на Святой Гары Грабарка згарэла праваслаўная царква Праабражэння Гасподняга - згарэла з усім дабром, якое ў ёй было. Матэрыяльныя страты ацэньваюцца спецыялістамі на два мільярды злотых. Духоўныя страты, якія ў выніку гэтага пажару пацярпела праваслаўе ў Польшчы, наўрад ці хтосьці калі-колечы ацэніць. 31 мая 1991 года Раённы пракурор у Бельску-Падляшскім унёс у Ваяводскі суд у Беластоку фармальны акт абвінавачання супраць асобы, якая падазраваецца ў падпаленні царквы. Судовая справа ўсё яшчэ чакае вызначэння тэрміну. Пра ход працэсу і яго вынік „Ніва", па меры магчымасцяў, своечасова павядоміць сваіх чытачоў.

2 жніўня гэтага года выбраўся я на Грабарку разведаць справу адбудовы святыні. Скажу адразу, што не пашанцавала мне пагутарыць з духоўнымі асобамі, заангажаванымі ў адбудову царквы, у сувязі з чым адзінай крыніцай інфармацыі, якую тут прадстаўлю, з'яўляецца інспектар пабудовы новага будынка Мікалай Міхноўскі з Сямяціч.

Праца над праектамі новай царквы была завершана ў кастрычніку 1990 года. Аўтарамі архітэктурнага праекта з'яўляюцца інжынеры архітэктары Кшыштаф Рымша Мазур і Ян Паўліцкі. Канструкцыйны праект выканаў інжынер Апалоніуш Мругальскі. Асновай для апрацоўкі праектаў былі наступныя крыніцы: фатаграфічная дакументацыя старой царквы, гістарычныя апрацоўкі царквы Праабражэння Гасподняга, змешчаныя ў магістэрскай дысертацыі Яна Паўліцкага „Архітэктанічны праект загаспадарання культавага комплексу Грабаркі", кансультацыі з мітрапалітам Васіліем адносна літургічных пытанняў, кансультацыі з Ваяводскім захавальнікам помнікаў, кансультацыі з інвестарам, гэта значыць з Жаночым манастыром на Святой Гары Грабарка, прапановы Міністэрства культуры і мастацтва. Выканаўцамі праекта з'яўляюцца будаўнічыя фірмы Яна Баены і Славаміра Краўчука з Нурца-станцыі. Пабудова пачалася ў лістападзе 1990 года. Сёння на Грабарцы стаяць сцены новага будынка царквы, заліты таксама строп. У будучым на мураваныя сцены пакладуць шалёўку - звонку і ад сярэдзіны. Кшталт і памеры новай царквы такія ж, як у тае з XVIII стагоддзя. Звонку новая царква мае быць дакладнай копіяй пагарэлага помніка. Некаторыя канструкцыйныя змены прадугледжваюцца ў сярэдзіне царквы, а маюць яны на ўвазе большую бяспеку аб'екта. Сёння, сказаў мне Мікалай Міхноўскі, зроблена таксама ўся сталярка для новага будынка. Будаўнікі абяцаюць, што да Спаса заліюць падлогу, паставяць дах царквы ды выканаюць часткова канструкцыю Райскіх Варот. 19 жніўня багаслужбы на Святой Гары Грабарка адбудуцца ў новай царкве. Як пабудова распланавана ў часе? Гэткую пабудову не плануюць, яе проста выконваюць.

На пляцоўцы перад манастыром спачываюць чатыры званы для новай царквы. Тыя, што віселі ў старой царкве - растапіліся ў пажары. Сярод фундатараў гэтых званоў былы прэзідэнт РП Войцех Ярузельскі, маршалак Сейма Мікалай Казакевіч і маршалак Сената Анджэй Стэльмахоўскі.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

Фота аўтара

## Я ВЕРЫЎ У ЗБАЎЛЕННЕ



### Размова з Сяргеем Новікам-Пяюном.

**У. Давыдоўскі**: - Гэты чалавек вядомы ўсім. Паэт, музыка і мастак Сяргей Новік-Пяюн. Ягонае сапраўднае прозвішча больш як трыццаць гадоў было пад забаронай, а потым па трыццаці ізноў пад забаронай. А таму ўсё, што ён стварыў, выходзіла пад псеўданімамі альбо лічылася народным. Паланізацыя, нямецкая акупацыя, сталінізм - усе рэжымы лічылі Пяюна сваім ворагам і імкнуліся схаваць паэта падалей ад народа. Пэўна, таму, што ён заўсёды заставаўся беларусам.

Калі я ішоў на сустрэчу з Сяргеем Новікам-Пяюном, то чакаў напаткаць зморанага пакутлівым лёсам старога. Але, як на дзіва, мне адчыніў дзверы і прапанаваў зайсці ў дом ветлівы чалавек з не па-старэчаму жывымі вачыма. І хаця перасоўваўся ён пры дапамозе мыліц, ніякім чынам імкнуўся не паказаць сваёй недалужнасці. Толькі вось шкадаваў, што праз хваробу не здольны працаваць на поўную сілу. Пачалася гамана. І першае, што выклікала маё здзіўленне, дык гэта тое, што ягоны позірк, захопленасць, нават аптымізм надта ўжо кантраставалі з жорсткай рэчаіснасцю і тым лёсам, які выпаў на яго долю. Цяжка было ўявіць, што гэты чалавек больш за 20 гадоў правёў па лагерах і ссылках.

**С. Новік-Пяюн**: - „Зорачкі" - гэта мая першая песня. „Зорачкі" я стварыў 28 сакавіка 1929 года, у ссылцы. Я скрыпач і мандалініст, а цяпер я нічога не магу граць.Мне папсавалі ў лагеры смерці пальцы. Цяпер ствараю толькі ў памяці, запісваю на магнітафон...

Гэтыя „Зорачкі" друкаваліся ў беларускай „Крыніцы", „Беларусі", кніжцы „Сцягі і паходні'. Шырма апублікаваў яе як песню выгнаннікаў.

**Д.:** - Наколькі я ведаю, там было напісана, што гэта песня народная.

**Н.:** - „Народная песня". Ён жа мяне ведаў з 25 года і ведаў, што надрукаваная была пад маім прозвішчам.

**Д.:** - „Зорачкі" спяваюць не толькі на беларускай мове.

**Н.**: - На ўкраінскай, рускай, польскай, таджыцкай, татарскай і на эсперанта.

**Д.:** - Вы сядзелі ў польскім астрозе, былі ў высылцы. Праз што?

**Н.:** - Я на самай граніцы арганізаваў хор, тэатр, гурток Таварыства беларускай школы, аркестр, ансамбль танца. Перад усім нам забаранялі называцца беларусамі, а называлі

**( Працяг на стар. 8)**




- 51 -

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Першымі беларусамі, якія, жывучы па-за межамі Польшчы, адгукнуліся на справу пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, былі эмігранты з Амерыкі. Гэта адтуль паплыў сардэчны струмень долараў у фонд Музея. Трэба сказаць, што здараліся пры гэтым кур'ёзныя выпадкі. Як вядома, першапачаткова Беларускі музей называўся: Музей помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры і рэвалюцыйнага руху. Гэтая доўгая і выразна нязграбная назва сталася прычынай некаторых непаразуменняў і канфліктаў. Асабліва прэтэнзіі з боку эмігрантаў выклікала канцоўка назвы: „і рэвалюцыйнага руху". Здарылася адзін раз такое, што нейкі эмігрант з Аўстраліі напісаў нам, што шкадуе тых дваццаці долараў, якія даў на Музей, калі гэта мае быць музей бальшавіцкага руху.

З падобнымі выказваннямі сустракаўся я ў Амерыцы. Некаторыя беларусы гаварылі мне, што мы будуем музей для партыі. Падтэкст усёй справы быў у істоце вельмі просты. Міністэрства ўнутраных спраў, якому было падпарадкавана Таварыства, выразна варожа глядзела на пабудову Музея. Заяўляла яно не раз, што Музей ёсць „прыватнай зацеяй" дзеячоў БГКТ, і што яно не дасць на Музей ніводнай залатоўкі. Трэба сказаць, што ў гэтай справе слова яно стрымала і сапраўды не дало ніводнага грашака. Няраз я быў сведкам і аб'ектам атакаў прадстаўніка Міністэрства Дэмянюка, які, пасадзіўшы мяне і Майсеню на крэселках, „жаваў" за „nieodpowiedzialna inicjatywe budowy Muzeum, ktora pachnie awanturnictwem".

Я, будучы эмацыянальным чалавекам, бараніўся, даказваючы сэнс пабудовы. Майсеня прымяняў тактыку адваротную. Ён проста маўчаў або нават ківаў у знак згоды галавой, а пасля мне гаварыў, што я без патрэбы гарачуся. „А трэба нам, - раіў Майсеня, - нічога не гаварыць, маўчаць, але Музей будаваць". І сапраўды, так яно і было, як ён гаварыў. Аднак, паявілася тут сур'ёзная загвоздка. Справа ў тым, што нельга было без „благаславення" будаваць Музей, і мы такое „благаславенне" знайшлі з боку Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку і партыйных улад у Гайнаўцы. Аднак, давялося за гэта заплаціць цану. Цаной гэтай сталася наша дэкларацыя, што мы ў збудаваным музеі адвядзем адзін пакой для матэрыялаў, якія знаходзяцца ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. І пайшлі на такую ўступку. Тым болей, што нам за гэту згоду гарадскія ўлады ў Гайнаўцы далі 10 мільёнаў злотых, што на тыя часы было вельмі значнай грашовай сумай, якая дазваляла прадаўжаць пабудову Музея.

У 1989 годзе праявіўся паглыблены і канчатковы крызіс даўняй сістэмы і так званай „кіруючай ролі партыі". Мы скарысталі з гэтай нагоды і вырашылі, што наша музейная ўстанова будзе називацца Беларускім музеем, без усякіх дадатковых канцовак.

Трэба дабавіць, што Музей рэвалюцынага руху ў Гайнаўцы перадаў нам у канцы 1989 года ўсе свае матэрыялы і экспанаты, што нямала сярод гэтых экспанатаў знаходзіцца дакументаў беларускамоўных, звязаных з рознымі фактамі беларускага руху на Беласточчыне ў міжваенны перыяд. Калі б мы гэтыя матэрыялы і дакументы сёння знішчылі, дык зрабілі б так, як сталіністы або гітлераўцы ў адносінах да дакументаў, нязгодных з іх ідэалогіяй. І таму ўсё тое, што адносіцца да беларускай мінуўшчыны, захаваем з вялікай карысцю для даследчыкаў гісторыі нашага народа.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

********************************************

# НЯМА КУЛЬТУРЫ БЕЗ ЛЮДЗЕЙ.

Культура ў Белавежы абапіраецца на даволі вялікай групе адданых ёй людзей, якія дзейнічаюць у розных асяроддзях. Таму ў адрозненне ад іншых гмінаў Беластоцкага ваяводства, трымаецца яна тут даволі моцна, нягледзячы на востры недахоп фінансавых сродкаў. Да такога менавіта вываду прыйшлі супольна ўдзельнікі сустрэчы, наладжанай нядаўна ў Белавежы з нагоды Дня дзеяча культуры. Сустрэча гэта адбылася ў адным з памяшканняў (зала шлюбаў) здадзенага ў карыстанне чатыры месяцы таму назад, новага будынка Белавежскага цэнтра культуры - відавочнага доказу добрай кандыцыі культуры ў гміне.

Сярод шматлікіх асоб, якім войт гміны Анна Байко сардэчна падзякавала за дзейнасць на культурнай ніве, былі: старшыня Камісіі культуры Рады гміны Люцына Карвоўская, апякунка маладых літаратурных талентаў у Лясным тэхнікуме Альжбета Ляпрус, мастачка Тамара Тарасевіч, стваральнік і апякун калектыву сігнальшчыкаў Віктар Вашкевіч, вядучая дзіцячую музыкальную групу Анна Скепка, аўтарка сцэнарыяў культурна-турысцкіх мерапрыемстваў Эва Высмулэк.

Сустрэча закончылася канцэртам фальклорнага калектыву з горада Клягэнфурт,штоўАўстрыі

**ПЕТР БАЙКО**

# ДАРЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ.

Незвычайныя госці наведаліся нядаўна ў Беларускі музей. З суседняга Бельска-Падляшскага ў Гайнаўку прыехалі Мікалай Красоўскі з жонкай, якія прывезлі ў дары для Музея тры іконы, выкананыя метадам піраграфіі. Спадар Красоўскі па прафесіі настаўнік матэматыкі і працуе ў Беларускім ліцэі, а аматарска займаецца рэлігійным мастацтвам. Выканаў ужо многа іконаў рознага фармату. Іконы, перададзеныя Музею, аўтар змясціў у прыгожыя дубовыя рамкі, таксама ўласнаручна выкананыя. Дар гэты яшчэ раз сведчыць аб адданасці беларусаў свайму Музею. Старшыня Камітэта пабудовы Канстанцін Майсеня сардэчна ўзрушыўся шчырасцю ахвярадаўцаў.

Карыстаючыся нагодай, яшчэ раз сардэчна дзякую спадарству Красоўскім з Бельска-Падляшскага за перададзеныя дары.

**МІКОЛА ГОЛУБ**

# ГОСЦІ З БЕЛАРУСІ

**Ад 2 да 6 ліпеня** прабывалі ў Варшаве па запрашэнню ОКП (Грамадзянскага парламентарнага клуба) беларускія парламентарыі: **Юрый Беленькі, Сяргей Папкоў і Уладзімір Заблоцкі.** Запрашэнне клуба госці ўспрынялі як магчымасць паглядзець зблізку працу польскага парламента і дзейнасць цэнтральных установў у часе ажыццяўлення рэформы гаспадаркі і дзяржаўнага ладу.

*Польшча ў параўнанні з Беларуссю - гэта дэмакратычная краіна і ў гэтай галіне многаму можам ад вас навучыцца,* гаварылі госці з Беларусі, *перш за ўсё ў сферы рэформы фінансаў дзяржавы. Самыя важныя ў працэсе дэмакратызацыі менавіта гаспадарчыя справы і нацыянальнае адраджэнне, а таксама выкананне прынцыпаў, запісаных у хартыі правоў чалавека. Другая наша вялікая праблема - гэта процідзеянне вынікам чарнобыльскай трагедыі. Гэта істотная для нас справа таму, што пасля аварыі ў Чарнобылі 70 працэнтаў радыеактыўных забруджанняў апынулася на тэрыторыі нашай рэспублікі. Цікавяць нас таксама псіхалагічныя аспекты дэмакратычных працэсаў у Польшчы.*

За найважнейшыя справы прадстаўнікі беларускага парламента прызналі, аднак, гаспадарчыя рэформы і рэгуляцыю фінансавых працэсаў. Лічылі, што трэба імкнуцца да нармальнай у свеце сістэмы фармавання бюджэту краіны, дзе выдаткі на ўзбраенне складаюць толькі 6 працэнтаў, а не 35 - 4О прац., як у бюджэце Савецкага Саюза. У справе падрыхтоўкі гаспадарчай рэформы вядуцца ўжо кансультацыі з удзелам заходніх экспертаў, а асабліва з прафесарам **Келерманам** з Гарвардскага універсітэта, які знаходзіўся ў групе заходніх экспертаў, што дапамагалі стварыць план Бальцаровіча.

Госці заўважылі, што эканамічныя перамены ў Польшчы, вынік ажыццяўлення плана рэформаў найбольш прыкметныя на ўнутраным рынку: *Паліцы ў вашых магазінах поўныя, а на Беларусі - наадварот*, гаварылі яны. *Наглядаецца дэфіцыт тавараў, перш за ўсё прамысловых, і пры ўвядзенні высокага мытнага бар'еру будзе ён яшчэ больш паглыбляцца. Гэтае апошняе рашэнне цэнтральнай адміністрацыі проста нелагічнае і прымяняецца яно пры ўласнай звышпрадукцыі для аховы свайго рынку, а не пры вострых недахопах. У Савецкім Саюзе звыш 80 працэнтаў прамысловасці дае прадукцыю на ўласныя патрэбы, астатнія - прадукуюць на рынак. Прабелы запаўняюцца замежнымі таварамі, але пры так высокім мытным бар'еры іх цэны мусяць узрасці і нават нельга намарыць аб свабоднай канкурэнцыі. Гэта прывядзе да такой сітуацыі, што цана калготак будзе раўняцца вартасці дня працы жанчыны.*

Ацэньваючы супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю, беларускія дэпутаты сцвердзілі, што вядзецца яно ў такім маштабе, у якім гэта магчыма паміж дзвюма краінамі, з якіх толькі адна з'яўляецца поўнасцю суверэннай.

У рамках свайго візіту беларускія парламентарыі правялі многа сустрэч з прадстаўнікамі розных палітычных колаў, якія ўваходзяць у састаў ОКП, прысутнічалі на сустрэчы Прэзідыума клуба з міністрам будаўніцтва **Адамам Гляпінскім**, сустрэліся таксама з маршалкам Сейма **Мікалаем Казакевічам.**

*(„Informator Parlamentarny OKP i Komitetów Obywatelskich", nr 43, 26.07.1991 r.)*




**На Беласточчыне прабываў праваслаўны хор Сабора св. Мікалая з Куапіо ў Фінляндыі.** Харысты наведалі Белавежу, Супрасль, Беласток, Грабарку і Яблачына.

**У Пунску адбылася сустрэча дэпутатаў з камісій замежных спраў парламентаў Польшчы і Літвы.** Аб міжнароднай палітыцы і гаспадарчых зносінах парламентарыі дыскутавалі спакойна. Многа эмоцый выклікалі праблемы правоў нацыянальных меншасцяў. Польскія паслы абвінавацілі літоўцаў у тым, што адцінаюцца яны ад супольных гістарычных карэнняў, прымушаюць палякаў прымаць літоўскае грамадзянства, знішчаюць польскія гістарычныя помнікі. Прадстаўнік Літвы заявіў, што некаторыя выказванні польскіх паслоў з'яўляюцца ўмяшаннем ва ўнутраныя справы Літвы. Польскія літоўцы гаварылі аб недастатковай дапамозе польскіх улад асяродкам культуры і літоўскім школам, аб патрэбе радыёпраграмы на літоўскай мове, аб адсутнасці літоўскіх паслоў у Сейме. Гарачую атмасферу супакоіў Баніслаў Гярэмак, які заявіў, што спадзяецца на вырашэнне канфліктаў шляхам узаемнасці, прапанаваў дапамогу ў стварэнні радыёпраграмы, а таксама яшчэ раз пацвердзіў, што Польшча не падтрымоўвае тых суайчыннікаў з Літвы, якія дзейнічаюць супраць незалежнай рэспублікі і яе тэрытарыяльнай цэласнасці.

**Канфедэрацыя незалежнай Польшчы,** Акруга Беласток, звярнулася ў Гарадскую раду з прапановай перайменаваць вуліцу Савецкай Арміі ў Беластоку на вуліцу Францішка Скарыны. У матывацыі пішацца, між іншым, што Ф. Скарына з'яўляецца сімвалам сувязяў беларускай культуры з культурай заходне-еўрапейскай.






## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Не забыць залешанскую трагедыю!
* Мінскія студэнты інвентарызуюць праваслаўныя помнікі на Беласточчыне.
* Успамін пра Антона Васілеўскага /Антося з Лепля/.
* Клопаты з ачышчальняй у Белавежы.
* Весткі з Семяноўкі і Зубава.

# ЯШЧЭ ПРА „БАСОВІШЧА”

Як нарадзілася „Басовішча”? Было гэта прыблізна так. Сабралася жменька сяброў: давайце зробім нешта накшталт агляду маладзёжнай музыкі, гэтага яшчэ не было. Ну й пачалі рабіць, не ўсведамляючы, што з гэтага атрымаецца. „Басовішча-90” нарадзілася з энтузіязму яго пачынальнікаў. Сёлета, ва ўмовах новай гаспадарчай сістэмы, над энтузіязмам узяў верх тоўсты кашалёк. Інакай і быць не магло. Інакай ужо не будзе!

Хто сёлета, у такой ці іншай форме, падсыпаў граша ў кашалёк Беларускага аб'яднання студэнтаў? Адказ: *людзі добрай волі, якія ў „Басовішчы” ўгледзелі нагоду праявіць сябе ў розных формах нашага шматпакутнага зямнога існавання - этычнага, музычнага, нацыянальнага, эканамічнага, сацыяльнага.* А ў прыватнасці:

1. Рада міністраў РП (Рада па пытаннях моладзі).
2. Міністэрства культуры і мастацтва.
3. Беларускае грамадска-культурнае таварыства.
4. Аб'яднанне беларуска-амерыканскай моладзі.
5. Прыхаджане царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе і Міраслаў Целушэцкі.
6. Міхась Лужынскі з Аўстраліі.
7. Варшаўская фірма „Біяполь” і яе кіраўнік Яўген Салагуба.
8. Беластоцкі гуртавы склад „Сонполь” і ягоны кіраўнік Пятро Прышчэпка.
9. Нью-йоркскі гурток БАС.
10. Гміна Гарадок і яе войт Яўген Семянюк.
11. Польскае войска.
12. Вялікі прыхільнік „Басовішча” спадар Мікалай Адамік з Гарадка.
13. Гарадоцкі дом культуры і яго кіраўнічка Тамара Бурачэўская.
14. Нью-йоркская беларуская моладзь, ад імя якой Аня Бартуль ужо на рахунак „Басовішча-92” прывезла



300 долараў.

Галоўны арганізатар „Басовішча-91” Багдан Сіманенка („Бодо”) дзякуе таксама сваім сябрам, якія дапамаглі яму ў звычайнай знатужлівай арганізацыйнай працы перад, у часе і пасля фестывалю. Вось іхнія мянушкі: Кшысё, Чыжык, Тарас, Марэк, Марко, Сіфон, Томпсан, Тры Ведзьмы, Пацпрэзідэнт, Кляўс, Бубусь, Макс.

„Басовішча-91”, акрамя трохчатырох тысяч публікі, прыцягнула таксама ладную грамадку журналістаў, кожны з іх у сваёй краіне перадаў тое, што адбывалася ў Гарадку ў днях 12 - 14 ліпеня. У гэтым кантэксце здзіўляе мяне бязвольная салідарнасць беластоцкай польскамоўнай прэсы (у Беластоку ж тры дзённікі!) у прамаўчанні „Басовішча”. Што ж зробіш, дзве самыя істотныя музычныя імпрэзы ў рэгіёне - гэта „Свята беларускай песні”і „Басовішча”. , Абедзве беларускія, абедзве міжнародныя. Баюся ўжо згадваць тут пра Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, якія даўно займелі сусветны ранг. „Басовішча” запрашае журналістаў праз год. Бас гарантуе зацікаўленым журналістам, што акрамя пасучыхся кароў і піва, якім гандлюе гарадоцкая прыватная ініцыятыва, знойдзецца яшчэ шмат іншых тэмаў, на якія можна будзе нацэліць аб'ектывы фотаапаратаў. Каляндар беларускіх імпрэзаў на Беласточчыне вельмі просты: май-чэрвень-ліпень, Гайнаўка-Беласток-Гарадок, ГДК-БГКТ-БАС.

Што не ўдалося на „Басовішчы-91”? Можа не - хай над гэтым мазгуюць арганізатары „Басовішча-92”.

Наканец, не паменшваючы ролі паасобных спонсараў „Басовішча-91”, трэба адзначыць, што самую істотную і вырашальную дапамогу Беларускае аб'яднанне студэнтаў атрымала ад цэнтральнага выканаўчага органа ўлады Рэчыпаспалітай, які, нягледзячы на цяжкое эканамічнае становішча краіны, імкнецца дапамагчы маладым беларусам у адраджэнні іхняй нацыянальнай культуры. Прыхільнасць гэтая спрыяе ўзаемаразуменню паміж маладымі пакаленнямі палякаў і беларусаў на культурным памежжы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**




*Зорка з Беларусі - Кася Камоцкая і „ Новае неба ”.*

## БАС У ФРАНЦЫІ

6 жніўня гэтага года 45 сяброў Беларускага аб'яднання студэнтаў выехала на экскурсію ў Францыю і іншыя краіны Еўрапейскай гаспадарчай супольнасці. Выезд стаў магчымым дзякуючы добразычлівасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства і яго штатных працаўнікоў - удзельнікі экскурсіі паехалі ў каляровы свет Захаду аўтобусам БГКТ.

На з'ездах Беларускага аб'яднання студэнтаў заўсёды паўтаралася, што трэба наладжваць турыстычную дзейнасць - прымаліся ў гэтай справе адпаведныя ўхвалы. Турыстыка ёсць тым фактарам, які найлепей з усіх прыцягвае да студэнцкай арганізацыі прыхільнікаў. Для прыкладу, у Варшаўскім універсітэце наймацнейшаю студэнцкай арганізацыяй з'яўляецца „рэжымнае' Згуртаванне польскіх студэнтаў, якое мае адпаведную для арганізацыі




турыстыкі матэрыяльную базу, а не „рэакцыйнае', як казалі пры папярэдняй уладзе, Незалежнае згуртаванне студэнтаў. Цяперашні прэзідэнт БАС Уладзімір Пац зрабіў з гэтага адпаведны вывад - наладзіў экскурсію ў Францыю. Ахвотных аказалася аж замнога - Валодзька штораз мусіў правяраць спісак удзельнікаў, адкідаючы лішніх. Некаторыя дзяўчаты плакалі, прыводзілі да Валодзі сваіх бацькоў - абы толькі паехаць! Што ж, кошт экскурсіі ад адной асобы не такі ўжо вялікі на сённяшнія ўмовы - 700 тысяч злотых і 20 долараў запасу ў кішэні. Іншыя ўмовы, якія ставіліся ўдзельніку экскурсіі, таксама няцяжкія - калі ты беларус, то мусіш мець на гэта дакумент: міжнародны студэнцкі білет з упісанай туды беларускай нацыянальнасцю. Вось і ўсё. Каб, аднак, ніхто не казаў, што беларусы расісты, на экскурсію паехала 5 польскіх студэнтаў, якія падтрымліваюць Беларускае аб'яднанне студэнтаў.

Траса экскурсіі такая: Беласток - Кёльн - Люксембург - Парыж - Тазе (Францыя, тут экскурсія затрымаецца на тыдзень, зведае Ліён, Лазурнае пабярэжжа) і назад: Мюнхен - Прага - Грабарка (на Спаса). Мэта экскурсіі даволі таямнічая. Прэзідэнт БАС кажа, што студэнты маюць навучыцца ў Францыі талерантнасці ва ўсіх яе варыянтах, каб ніхто ў будучыні не абвінавачваў беларусаў у шавінізме, нацдэмаўшчыне, ці ў чым там яшчэ.

**В. П.**

# НОВАЯ ЯКАСЦЬ СТУДЭНТАЎ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Ад трэцяга да шостага ліпеня бягучага года праводзіліся экзамены на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Першы раз у гісторыі Кафедры праходзілі яны так доўга. А доўга таму, што першы раз на працягу трыццаціпяцігадовага існавання Кафедры было аж семдзесят трох кандыдатаў. Беручы пад увагу, што Кафедра атрымала пятнаццаць месцаў, дык выйшла, што на адно месца прыпадае амаль пяць кандыдатаў. Такой моды на беларускую філалогію яшчэ ніколі ў Польшчы не было. І гэта з'ява радасная. Аднак, ёсць і з'ява другая, поўнасцю сумная. Першы раз у гісторыі Кафедры беларускай філалогіі не было сярод кандыдатаў ніводнага выпускніка беларускіх ліцэяў з гэтага года. Пачынаючы ад 1956 года, а канчаючы 1991 годам, заўсёды 70 - 80, а то і 90% нашых студэнтаў было выпускнікамі беларускіх ліцэяў. У гэтым годзе не прыйшоў ніхто, нягледзячы на тое, што ў мінулым годзе ўведзена ў нас цікавая дадатковая спецыялізацыя - польская філалогія. Чаму так сталася? Зразумела, што адказ на такое пытанне трэба фармуляваць асцярожна. Я не хацеў бы тут абвінавачваць дырэктараў ліцэяў ці настаўнікаў беларускай мовы, хаця, быць можа, што і ёсць тут пэўная іх віна. Аднак, здаецца мне, што не галоўная. Сярод найважнейшых прычын, на маю думку, галоўныя - дзве. Першая заключаецца ў тым, што школы, у якіх выкладаецца беларуская мова ва ўсходняй Беласточчыне, поўнасцю ўкамплектаваны беларускімі настаўнікамі і атрыманне працы ў такой школе не ёсць справай простай. Другая, мабыць, больш істотная, праяўляецца ў тым, што Гародня і Мінск адкрылі розныя аддзяленні, у тым ліку і беларускую філалогію для выпускнікоў нашых ліцэяў без экзаменаў, з адначасным забеспячэннем іх інтэрнатам і стыпендыяй. Зразумела, што гэта звабіла многіх выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Бельска і Гайнаўкі. Цяжка тут здзіўляцца або мець прэтэнзіі да маладых людзей за тое, што кіраваліся яны галоўным чынам матэрыяльнымі прынцыпамі. Ці прадстаўленая з'ява выступіла толькі ў гэтым годзе, ці яна паўторыцца і ў наступных гадах? Зразумела, што было б мне вельмі прыкра, калі б на Кафедры беларускай філалогіі ВУ ўвогуле не было ў будучым беларусаў. На камплектаваным у гэтым годзе курсе яны пакуль што будуць. Справа ў тым, што сярод кандыдатаў знайшлося каля шасці чалавек, у большасці выпускнікоў польскага ліцэя з Бельска або іншых сярэдніх школ, з якіх мы прынялі каля пяці чалавек. Гавару я неканкрэтна, таму што некаторыя з іх, хаця і праваслаўныя, не прызнаюцца да беларускай нацыянальнасці. Затое прызналася да яе кандыдатка з Варшавы, бацькі якой увогуле не выводзяцца з Беласточчыны. Досыць многа кандыдатаў мелі мы з-пад Белай-Падляшскай.

Амаль усім кандыдатам-палякам задавалі мы пытанне: чаму

( Працяг на стар. 5 )

## Свойскія малюнкі



*Стары двор у Страблі. Мал. У. Петрука.*

************************************************************************

# СПРАВА СЯДОВА

У маі гэтага года ў Мінску быў арыштаваны Валеры Сядоў, сябра БНФ „Адраджэнне". Аб гэтым арышце, учыненым па яўна палітычных прычынах, пісалі некаторыя мінскія газеты і беларускія эміграцыйныя выданні. Калі ў палове ліпеня я быў у Мінску, пра Сядова гаварылі амаль усе, нават тыя, што палітыкай ніколі не цікавіліся. Народ, які ўжо даволі добра прызвычаіўся да тэрору, безнадзейнасці і хлусні, надзвычай эмацыянальна зрэагаваў на здзек над чалавекам, што адважыўся выступіць супраць злачыннай сістэмы.

Усё пачалося 7 лістапада 1990 г., калі пад час антыкамуністычнай дэманстрацыі на плошчы Леніна яе ўдзельнікі рашылі ўкласці Леніну належныя яму „дары" - пудзіла энкавэдзіста і вопратку вязня гулагу. „Дары" гэтыя пад помнікам Леніну мела паклассці 10-асабовая дэлегацыя. Пастамент атачаны быў кардонам міліцыі, якая не прапусціла дэманстрантаў да „святасці савецкай дзяржавы". Ды ўсё-такі напор натоўпу на некалькі хвіляў разарваў кардон, і Ленін атрымаў „атрыбуты" створанай сабою сістэмы. Сярод тых, якія апынуліся ля самага пастамента, быў і Валеры Сядоў. Ён таксама паставіў ля помніка беларускі сцяг, а пасля прамаўляў, заклікаючы да ўтварэння „Антыкамуністычнай лігі".

Дык вось, першы раз за сваю гісторыю савецкія беларусы замест кветак паднеслі Леніну болей канкрэтны сімвал памяці. Гэта для камуністаў была прафанацыя іхняга святога. Нічога дзіўнага, што ў сваіх сродках масавай інфармацыі яны пачалі называць бээнэфаўцаў бальшавікамі. Аналогіі дашукаліся ў тым, што бальшавікі знішчалі цэрквы й праследавалі духоўнікаў, а вось БНФ - не ўшаноўвае боскай асобы Леніна і рыхтуецца знішчаць ягоныя выявы. Гэтая логіка ставіць Леніна як стваральніка вялікай рэлігіі. Хто разумее гэта іначай, з'яўляецца злачынцам, рэнегатам, ворагам народа. Пакуль што, сотні тысяч янычараў пільнуюць святасцяў, на якія народ глядзіць ужо з агідай.

Праз два тыдні пасля святкавання 7 лістапада пачаўся XXIV З'езд Камуністычнай партыі Беларусі. З'езд запатрабаваў ад пракуратуры і міліцыі высветліць справу дэманстрацыі і пакараць яе арганізатараў. У сродках масавай інфармацыі пайшла цяжказбройная прапаганда супраць БНФ, у якой акрэсленні „Пазняк - фашыст" траплялiся густа й часта.

Вясной у Вярхоўным Савеце БССР пастаўлена было пытанне аб вывадзе Пазняка і іншых дэпутатаў-удзельнікаў дэманстрацыі 7 лістапада са складу парламента.

Пракуратура і міліцыя пачалі допыты. Правялі адпаведныя размовы з блізу сямі сотнямі ўдзельнікаў і сведак дэманстрацыі, запісалі тоны паперы.



Вясной пачаліся рабочыя страйкі. Сядоў выступаў на рабочых мітынгах, заклікаючы да змагання з амаральнай і антынароднай сістэмай. Звяртаў пры тым увагу, што толькі палітычныя метады змагання маюць сэнс, без гвалтоўных зменаў. Пасля аднаго з такіх мітынгаў быў арыштаваны. Абвінавацілі яго ў хуліганстве і паставілі іншыя закіды крымінальнай натуры.

Сядоў, сацыёлаг па адукацыі, апошнім часам супрацоўнік бээнэфаўскіх „Навінаў", расеец па паходжанні, выступаў за незалежнасць Беларусі і заклікаў усіх расейцаў падтрымаць гэткую ідэю, грунтуючыся на тым, што толькі вольная Беларусь дасць магчымасць рэалізацыі ўсіх правоў чалавека, у тым ліку гарантыю правоў нацыянальных меншасцяў. На яго заклік - „Беларусь без камуністаў" - адгукнулася пад час выбараў 1990 г. каля 33 % выбаршчыкаў у мінскай акрузе, дзе ён выступаў кандыдатам.

У лісце амерыканскаму пасольству ў Маскве В. Сядоў прадставіў кашмар, што існуе ў савецкіх турмах.*„Хачу нагадаць вам, паважаныя спадары, - пісаў Сядоў, - што СССР ратыфікаваў міжнародныя пагадненні аб правах зняволеных. Таму звяртаю ўвагу на грубейшыя парушэнні гэтых правоў у турме, дзе мяне трымаюць у дадзены момант. Падкрэсліваю - людзі, якія тут знаходзяцца, невінаватыя. Суда над імі пакуль што не было, таму яны павінны карыстацца такімі ж правамі, што і астатнія грамадзяне.(...) Коратка пералічу ўмовы нашага існавання: у нашай камеры, разлічанай на 8 чалавек, знаходзіцца звычайна 15-18 чалавек. Людзі спяць проста на бетоннай падлозе, паветра бракуе, вільготнасць дасягае 100 %, дыхаць няма чым, цела пастаянна пакрытае потам, прыняць душ можна адзін раз у 10-15 дзён. Унітаз знаходзіцца ў камеры і распаўсюджвае невыносны смурод. Са столі капае вада і сыплецца тынкоўка, прагулкі замест належных 60 хвілін абмежаваны да 15-20. (...) Медычная дапамога практычна адсутнічае. Так, напрыклад, пры паступленні ў турму кроў ва ўсіх бярэцца адной іголкай, якую спалоскваюць халоднай вадой, і гэта завецца аналізам на СНІД. Стаматалагічная дапамога адна - пры найменшым зубным болі зуб вырываюць. (...) Усёй міжнароднай супольнасці вядома, што галоўнай рысай нашай дзяржавы ёсць пагарда да чалавека, але тое, што яны робяць са сваімі грамадзянамі ў следчым ізалятары, назваць інакш як злачынствам супроць чалавецтва нельга, а шмат каго трымаюць тут па некалькі год".*

Супроць гэтага кашмару Сядоў запратэставаў галадоўкай. Першы раз здарылася на Беларусі, што ў турму прыйшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета, першы раз пра жахлівыя ўмовы жыцця ў турмах загаварылі ў парламенце. Першы раз таксама нешта скранулася з месца, пачало змяняцца. Пасля візіту дэпутатаў начальнік турмы загадаў нешта пазамятаць, памыць, лекараў апранулі ў чыстыя кіцелі. Вінаватым на ўсім быў тут Сядоў, які галадаў і ўсё яшчэ жыў. На 26-ы дзень галадоўкі яму абяцалі, што зменяць турэмныя ўмовы, і пагадзіліся з яго дамаганнямі. Сядоў рашыў спыніць галадоўку. Перад ім паявіліся талеркі са смачнай ежай. Але арганізм не быў у змозе прыняць тую ежу. Са страўніка пайшла кроў, ныркі адмовіліся функцыянаваць. Дарма вязні клікалі медыкаў - ніхто не прыходзіў. Таму яны самі сталі кіпяціць ваду і ўліваць яе Сядову.

16 ліпеня пракурор выпусціў Сядова, але яго адразу трэба было даставіць у бальніцу. У пачатку жніўня меўся пачацца працэс, якога чакала ўся Беларусь. Пазбаўленай грашовых сродкаў сям'і Сядова

( Працяг на стар. 7 )

# ✳ ВАСІЛЮ ПЕТРУЧУКУ - 65 ✳



### ВІНШУЕМ!

23 жніўня спаўняецца 65 гадоў Васілю Петручуку - аўтару „Пожні", члену Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", кандыдату ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Зычым яму новых поспехаў і працаздольнасці на доўгія гады!

**********************

## ГОРКАЯ П'ЯНІЦА, ГОРА МНЕ З ТАБОЙ.

*Калі мы любіліся, нас маці ня знала,*
*А як разышліся, бы чорная хмара.*

- Маня, кінь ты гэтага хлопца і скажы, каб ён не паказваўся на наш парог, - крычала маці на дачку, якая закахалася ў п'яніцу.

- Мама, - адказала Марыся, - я хачу толькі Уладзіка і больш нікога. Гэта сапраўдны мужчына: ён і вып'е колькі трэба, і каго хочаш па мухаедзе заедзе на танцах... А які дбайны. Вы што не бачыце, што ён заўсёды пры грашах?

- А пры грашах, пры грашах, бяда толькі, што ня пры сваіх, - сказала Тэкля і... падумала, што лепш было б прыкусіць язык, чымсьці ляпнуць гэтую праўду.

- А пры чыіх, вы яму даеце? - накінулася Марыся на маці.

- Яшчэ чаго! Каб я нават на вуліцы знайшла грошы, то й то яму не дала б, бо ён жа ўсё прапівае.

Марыся пагневалася на маці за знявагу кавалера і перайшла жыць да цёці. З Уладзікам сустракаліся, хадзілі на танцы і ўсюды праз цэлы год, а пасля пажаніліся. Жылі ў хаце ягоных бацькоў.

Праз два-тры месяцы пасля шлюбу паявілася на свет дзіцё, якое замест прынесці радасць шлюбнай пары і згоду абодвум сем'ям, прынесла яшчэ больш гора сваёй маці. Бабка з боку бацькі нованароджанага хлопчыка адразу празвала байструком, а бабка з боку маці нават не пайшла ўнучка наведаць.

Уладзік далей займаўся нейкімі цёмнымі справамі (пераважна на базарах у Кляшчэлях, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы і Беластоку), піў і пабольшваў сям'ю. Калі ўжо аблажыў жонку чатырма ці пяццю дзецьмі, трапіў у турму за пакражу футраў. Засудзілі на пару год і сядзіць. А яго бацькі ападыктычна „папрасілі" нявестку, каб выбралася з іхняга дома, бо ж ім цесна. Ідзі да таго, з кім нарабіла дзяцей!

Марыся перапрасіла сваіх бацькоў і прынесла ім унукаў. Цяпер бабуля Тэкля іх даглядае, а найменшаму, калышучы, часам спявае:

*„...Як мы любіліся, нас маці ня знала,*
*А як разышліся, бы чорная хмара...*
або:
*„...А п'яніца-небажыца ў карчме п'е,*
*Калі прыдзе да дамоньку, жонку б'е.*
*Ой, прывыкай, маё дзіцё, прывыкай,*
*Да суседа праз ваконца уцякай.*
*А як жа мне, мая мамо, уцячы?*
*Трымаецца п'янічэнька за плечы...!"*

Аднойчы ўвайшла Марыся ў хату на гэты спеў, убачыла засынаючага, з пальцам у роціку, сына і залілася слязьмі, а маці за ёю.

Паплакалі, пагаварылі, а калі спазмы ўступілі месца палёгцы і Марыся магла выдабыць з сябе голас, яна ў сваю чаргу заспявала:

*„Ой, каб я была знала, што*
*замужам так ліха,*
*Я сядзела бы, бульбу ела бы*
*ў матуленькі ціха,*
*Эх, успамінай мяне, мама,*
*з панядзелка на ўторак,*
*А я буду цябе ўспамінаці той*
*на дзень разоў сорак.*
*Спамінай мяне, мама,*
*усюды добрымі славамі,*
*А я буду цябе ўспамінаці*
*ўсюды горкімі слязамі...".*

Божа наш, Божа! Пабач, мама, якое чалавечае жыццё: адзін жыве прыпяваючы, а другі мучыцца...

І ты, доню, жыла б як людзі, калі б паслухала бацькоў, - перарвала Марысю маці, - але ж хацела кахаць „героя'.




## У ЧЫМ СПРАВА?

Можна падрабязна разабраць донісы абаронцаў А. Баршчэўскага і БГКТ і даказаць, што аўтары іх (У. Юзвюк - „Ніва" ад 9.06.91 г. і Янка Жамойцін - „Ніва" ад 7.07.91 г.) памыляюцца, абвінавачваючы Яна Максімюка і БДА ў тым, што яны з'яўляюцца далакопамі БГКТ.

Для мяне справа простая. Калі заняпад дзейнасці ў БГКТ сягаў дна, калі трэба было штосьці рабіць для беларусаў у Польшчы, самыя актыўныя іх прадстаўнікі стварылі Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне - палітычную партыю беларусаў у Польшчы. Ці БДА супраць БГКТ і А. Баршчэўскага? Чытаючы У. Юзвюка і Я. Жамойціна, можна меркаваць, што Сакрат Яновіч са сваімі „хлопцамі' хоча знішчыць БГКТ і Баршчэўскага.

Для справы беларусаў патрэбны розныя формы дзейнасці. Трэба нешта рабіць, а не толькі існаваць, як існавала спакойна БГКТ на працягу некалькіх апошніх гадоў. Існавала з датацыі дзяржавы.

Тое, што Баршчэўскі - чалавек, адданы справе беларусаў, усе мы ведаем, і Я. Жамойцін тут Амерыкі не адкрывае; што ён вялікі эрудыт - таксама вядома, і што кепскі арганізатар - то пэўна ведаюць толькі чарговыя сакратары ГП БГКТ. Калі хтосьці хоць крышку займаўся арганізацыйнай працай, ведае, колькі часу, нерваў і грошай трэба, каб аформіць адну справу, а іх жа пры Варшаўскай 11 у Беластоку дзесяткі, як не сотні.

Пэўна, не было б столькі крыку, каб беларусы з іншых беларускіх арганізацый не дамагаліся датацыі дзяржавы, якую невядома чаму атрымоўвае БГКТ і з'яўляецца яе адзіным дыспанентам.

Думаю, што тут з'яўляецца ядро сваркі.

**М. КУПТЭЛЬ**

## НОВАЯ ЯКАСЦЬ СТУДЭНТАЎ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

( Працяг са стар. 4 )

выбіраешся на беларускую філалогію? Большасць з іх адказвала вельмі цікава. Гэтыя адказы зводзіліся наогул да наступнага сцвярджэння: Беларусь дагэтуль была зняволеная, не мела нацыянальнага парламента, урада, устаноў і школьніцтва. Сёння Беларусь і беларускі народ адраджаюцца. Верым, што Беларусь станецца незалежнай дзяржавай і што Польшча будзе з ёй супрацоўнічаць - дыпламатычна, культурна і гаспадарча. Думаем, што ў такой сітуацыі наша веданне беларускай мовы, нашы беларусазнаўчыя веды прыдадуцца, што прынясуць карысць і нам, і Польшчы, і Беларусі.

Не мушу гаварыць, што такія адказы мяне цешылі. Шкада толькі, што такое разуменне праблемы не характарызуе многіх маладых беларусаў.

**А. БАРШЧЭЎСКІ**

**************************************************************************




### XV. МАЦНЕЙШАЯ ЗА ЧАС

Яшчэ ў часы дзейнасці першых хрысціянаў на Падляшшы паўстаў таксама ў Мельніку на Бугу моцны асяродак хрысціянскага жыцця. На вялікі жаль, шматлікімі помнікамі даўніны ў гэтым старажытнейшым паселішчы - гарадзішчам, рамесніцкімі пасадамі, навакольнымі курганамі, могільнікамі і, перш за ўсё, катакомбамі ў крэйдавай гары Ушэсця дагэтуль ніхто з археолагаў сур'ёзна не заняўся. І вельмі шкада, бо ў іх тояцца шматлікія факты, надта ж важныя для паўнейшага раскрыцця мінуўшчыны Пабужжа, беларусаў на паўднёвым і паўночным Падляшшы (на левым і правым беразе сярэдняга цячэння ракі Буга), гісторыі Праваслаўнай Царквы на гэтых землях.

Мельніцкае прадпрыемства па пераробцы крэйды кожны год у месцы, дзе бярэ сыравіну, адкрывае ўсё новыя і новыя калідоры і пячоры, пракладзеныя людзьмі болей за 4 тысячы гадоў таму назад. У пакладах крэйды яны здабывалі спецыяльны гатунак крэменю для вырабу з яго сякераў, нажоў, сярпоў і іншых прыладаў і зброі. Хоць потым нашы продкі не шукалі ўжо крэменю, пракапаныя раней калідоры і пячоры не пуставалі. У вялікія нягоды яны служылі мельнічанам і навакольнаму насельніцтву надзейным сховішчам ад наезнікаў і захопнікаў.

У гэтых пячорах, мабыць, знайшлі прытулак і першыя праваслаўныя манахі. Жылі яны ў адзіноце ў паасобных келлях, на супольныя малітвы выбіралі адно з большых падземных памяшканняў. Калі пры княжанні Уладзіміра Вялікага, Яраслава Мудрага і іхніх нашчадкаў Кіеўская дзяржава стала ахвярнай апякункай праваслаўнай веры, на той жа гары Ушэсця, якая ўзвышаецца над Мельнікам, паўстаў напаверхневы манастыр з Багародзічнаю царквою. У гэтым храме ад невядомага часу знаходзілася цудатворная ікона Праабражэння Гасподняга Спаса. Людзі простыя і князі звярталіся да гэтай святыні ў самыя цяжкія моманты жыцця, у трагічныя павароты гісторыі. Калі ў 1259 годзе на беларускія, украінскія і суседнія землі навальвалася татарская арда ханскага ваяводы Бурундая, каб рабаваць, браць у палон, забіваць і руйнаваць, тады многія хрысціяне Пабужжа памкнуліся пад ахову цудадзейнай іконы. У Іпацьеўскім летапісе чытаем, што тады ў Мельнік прыбыў таксама кароль галіцкі і валынскі Даніла Раманавіч з усім дваром „И помолився Богу, святому Спасу Избавнику, яже есть икона яже есть в городе Мелнице во церкви Святое Богородице и ныне стоить в велице чести; обеща Ему Данило король крашениемь украсити и". Напомнім: адбылося тое амаль 750 гадоў таму назад.

З якой прычыны і калі цудадзейная ікона Спаса-Збаўцы была перанесена з Мельніка ў глыб Мельніцкае пушчы, на гару Грабарку, застаецца загадкай. Напэўна наступіла гэта ў вельмі небяспечных для шанаваных усімі святыні абставінах, яе проста ратавалі ад знішчэння іншаверцамі, а такога і пасля XIII стагоддзя было нямала. З бытуючых сёння легендаў пра паўстанне храма на Грабарцы можна меркаваць, што адбылося гэта ў пачатку XVIII ст., у часы вострага праследавання Праваслаўя і праваслаўных на землях Рэчы Паспалітай. На жаль, нашыя продкі не змаглі ўстаяць перад навалай, не здолелі абараніць і захаваць ікону. Але праваслаўны народ захаваў і перанёс праз доўгія стагоддзі ганенняў і ўшчуванняў памяць пра цудадзейную святыню, пра ікону Спаса-Збаўцы, і пашану да месца, дзе яна апошнім часам знаходзілася. Памяць народная, любоў народная да свае святыні аказаліся мацнейшымі за праследаванні, за злых людзей, за час.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

**20. ПА ІНДЗЕЙСКІХ СЦЕЖКАХ - НА ГАРУ МОГАНК.**

Вось і лета ўжо хутка скончыцца. Вярнуўшыся з двухтыднёвага водпуску, я вырашыла закончыць свае ўспаміны з вікенду ў Эленвілі, якія была вымушана перарваць эпізодам з „амерыканкай" Аняй Бартуль, якая пабывала ў нас на „Басовішчы". Глянуўшы ў 29-ты нумар „Нівы" на папярэдні адрэзак пра вікенд у Эленвілі, на дачы ў спадарства Андрусішыных, я спалохалася. У подпісе пад здымкам, на якім каля хаты сабраліся амаль усе госці, што з'ехаліся ў Эленвіл на Данчыкава і яго бацькоў запрашэнне, было прапушчана прозвішча Раечкі Станкевіч, адной з галоўных арганізатарак нашых паходаў, экскурсій, паездак. А так жа выразна на здымку было відаць, што Рая стаіць другая за Паўлом Андрусішыным, а толькі тады быў Валянцін Стэх з Вільні!.. Ну, вось табе і на! А казалі, што на камп'ютэры будзе лепш...

На момант вярнуся яшчэ да Анінага візіту ў нашай рэдакцыі. Як толькі яна паявілася на парозе майго пакоя, усе нашыя працаўнікі - нават тыя, якія яе ніколі раней не бачылі, - адразу сказалі: „О, Аня Бартуль прыехала!" Усе яны ўжо ведалі Аню з фатаграфій, якімі я даволі шчодра аздабляла свае занатоўкі з Амерыкі. Было радасна, што хоць у нейкай ступені ўдалося наблізіць нашым людзям постаці амаль невядомых ім дагэтуль беларусаў з Паўночнай Амерыкі.

* * *

З Эленвіла на гару Моганк вязуць нас перапоўненымі самаходамі Аня і Рая. Быў другі дзень вікенду. Данчык - наш галоўны праваднік. Абвяцаў павадзіць колішнімі сцежкамі індзейцаў. Ізноў едзем мо восемдзесят кіламетраў, мо сто. І так усё тут на гэтыя мілі, трэба ўвесь час пералічваць.

Пад'язджаем да люксусовага старога гатэля, што стаіць сярод гор над возерам цудоўнага спакою. Заснаваны быў у 1870 годзе. Фактычна называецца Mohonk Mountain House. Прыгажосць нязвыклая! Людзі прыязджаюць сюды адпачываць зімой і летам. Усё тут ёсць: горы, вада, паветра, камфартабельныя пакоі. Вядома, пра кошты гаварыць не будзем. Можна займацца тут спортам, можна іграць у розныя ігры, катацца на лодках, ездзіць на конях, займацца лячэбнай гімнастыкай.

Нашыя апекуны плоцяць за тое, каб увайсці ў гэты „Дом". Даўгавата ідзем рознымі калідорамі. І вось мы апынуліся ў вялізнай стылёвай зале, дзе можна піць колькі хочаш гарбаты, кавы, можна выбіраць любое пірожнае - за ўсё ўжо заплачана. У гэтай атмасферы мінулага стагоддзя мы частуемся, адпачываем. Але наша галоўная мэта - вяршыня гары Моганк.

Доўга ідзем на самы верх. Гару спіраллю апаясваюць старыя сцежкі індзейцаў. Мы не спяшаемся. Аглядаем маляўнічыя, як з фільма, краявіды з вышыні. Некаторыя з нас робяць час ад часу здымкі. Які прастор, якія колеры! Далёка ўнізе застаўся гатэль, а мы ўжо вось і наверсе. Можна ўвайсці ў вежу і яшчэ з большай вышыні глянуць на наваколле.

Нарабіўшы на вяршыні гары памятных здымкаў, мы паволі спусціліся ўніз. Цяпер будзем катацца на лодках! Пазычаем дзве лодкі. У адной будзе веславаць Сяржук Сокалаў-Воюш, у другой - Руслан, 18-гадовы сын Валі Якімовіч, настаўніцы з Мінска. Больш давяраю спакойнаму Руслану, чым гарачаму Сяржуку, і сядаю ў другую лодку.

Каталіся мы, каталіся, і раптам нашаму Руслану захацелася пакупацца. Пад'ехалі да берага, Руслан заліхвацка выскачыў з лодкі і хутка пачаў распранацца, пакінуўшы нас у недаўменні без веславальшчыка. Дзяўчаты просяць: „Вяслуй ты, Данчык!" І ён бярэ вёслы ў рукі і пачынае неяк нятрапна веславаць. Я ж, кажа, першы раз у жыцці гэта раблю! Пачынаю яму „насуха" ўдзяляць інструкцыі, а лодка ледзь-ледзь пасоўваецца наперад. І раптам нехта з другой лодкі крыкнуў: „Вы ж задам наперад едзеце!" Я глянула



*Від з гары Моганк на возера і гатэль.*

**************************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

**АРТЫКУЛ ПЯТЫ**

Найбольшае дасягненьне Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, гэта бяз сумлеву - школьніцтва. Школьніцтвам, як тады мне здавалася, квітнела ўся Беласточчына. У гэтым рэгіёне працавала вялікая колькасьць беларускіх школ. Нажаль, па маёй няўцямнасьці не магу сказаць, колькі іх было. Досыць таго, што ў сваёй большасьці дзятва была ахоплена школай. Грамадства гарнулася да справы наладжаньня школьніцтва, нягледзячы на цяжкасьці ваеннага часу, няпэўнасьці ў заўтрашнім дні. Канешне, шмат чаго не хапала - памешканьняў, падручнікаў, настаўнікаў і г.д., але ўсё гэта неяк перамагалася ахвотай і энтузіязмам як саміх кіраўнікоў асьветай, гэтак і высілкамі самога грамадства, і адна па аднэй паўставалі школы. Палякі ня мелі сваіх школаў, і гэта - дыялектычна - як-бы паскарала працэс фармаваньня беларускага школьніцтва. Можна было сьцвярджаць, што паўстала беларускае настаўніцтва як гэткае - у яго ўліліся і былыя выкладчыкі ў польскіх школах. Беларуская школа зьявілася ў нейкай ступені і паратункам ад вывазу моладзі на працу ў Нямеччыну, хоць, канешне, не магла быць поўнай гарантыяй ад такога вывазу. Але і гэты фактар, думаю, спрыяў пашырэньню беларускага школьніцтва. Як-бы там ні было, адчувалася адраджэньне беларускай школы, было нешта накшталт маленькага, кароткага рэнэсансіку. Прынамсі, я адчуваў уздым беларускасьці і сам быў падагрэты ім. Я ўжо неяк казаў, што ў Беласточчыне я адчуў **жывую** Беларусь. Гатовы быў прызнаць яе маёй другой радзімай. Досыць было пабываць толькі на настаўніцкім зьезьдзе, або на курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў, каб вас ахапіла адчуваньне беларускага духу.

У беларускім настаўніцтве на Беласточчыне бралі самы актыўны ўдзел жанчыны. У вялікай ступені гэтай іхнай ахвярнасьці забавязана адраджэньне беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Пакарыла маё сэрца беларуская школа ў Гайнаўцы. Быў я там на Калядной ялінцы, першы раз у маім жыцьці - у савецкай-жа школе яе ня ладзілі. Вучнёўская самадзейнасьць захапіла мяне зладжаным, артыстычным выкананьнем праграмы, дзяўчынна-юнацкім уздымам, сьвяточным настроем і ня ў меншай ступені - выхаваўчым клопатам саміх настаўнікаў, жаночай дбайнасьцю. Прысьвячаў свой верш вучням беларускай школы ў Нараўцы, ды ў ім мне, нажаль, не ўдалося выказаць у паўніні свайго захапленьня. Падам яго тут толькі, як факт, а не як мастацкі твор.

Забыўшыся на ўсё: на смутак
і на гора,
ушчулены, глядзеў на сцэну я
і некуды, у зорныя прасторы,
узносілася ўміг душа мая.

Нібы не існаваў ніхто у салі
і толькі чуў я дотык цяплыні.
У памяці зноў ярка расьцвіталі
майго маленства дні.

Глядзеў на вас на
сцэне, ўсхваляваны,
зіхцела ўсё, нібы вясною сенажаць.
Падняўся я і, як зачараваны,
хацеў пайсьці да вас
сьпяваць і танцаваць.

Ня думаць аб жыцьці
пакутлівым і зморы,
насіць ў вачах празрыстасьць сінявы,
узьняцца ўсплёскам сінім мора,
як узьняліся сёньня вы.

Я ўжо гаварыў, што сярод настаўніцтва Беласточчыны былі і настаўнікі, што раней выкладалі ў польскіх школах. Але траплялiся і настаўніцы-расейкі. Напрыклад, адна маладая масквічка, апынуўшыся ў Беласточчыне, вывучыла настолькі беларускую мову, што ўжо магла выкладаць - і выкладала - у беларускай школе. Ведала нават напамяць урыўкі з паэмы Якуба Коласа „Новая зямля"

Мне можна зрабіць закід, што перабольшваю дасягненьні беларускага школьніцтва ў Беласточчыне, недаацэньваю тыя цяжкасьці і перашкоды, з якімі сутыкалася яно ў сваёй практычнай дзейнасьці, што падаю ўсё ў ружовых



*На вяршыні гары Моганк.*



*Спадар Паўло ледзь пасьпяваў падкладаць галлё ў вогнішча.*

- і праўда. Нарэшце лодка рушыла як трэба.

Руслан заядла плаваў, а маці яго з лёгкім непакоем спаглядала то на сына, то на вопратку, якую ён неабачна пакінуў на беразе без нагляду. Калі мы паплылі далей, сынава вопратка зьнікла з поля бачання яго маці і ў думках Валя ўжо, пэўна, разьвіталася з ёю. Добра, што хоць фотакамеру ў лодцы пакінуў!

Руслан жа тым часам выйшаў на бераг і разглядзеўся за сваёй вопраткай. Яна спакойна чакала яго на тым самым месцы, дзе ён яе пакінуў, а да таго на ёй ... красаваўся снежнабелы пушысты ручнік, пакладзены клапатлівай рукой гасьцінічнай службы, каб Руслан меў чым абцерціся.

Мы ўсе, госці з Усходу, даведаўшыся



*Алінка, Данчык, Руслан, Сяржук, Аня і аўтарка.*



*Юлін швагер Лёня завіхаецца пры „стэйках".*

пра гэта, пачалі (невядома чаму) дзіка рагатаць...

Вечарам на дачы было вогнішча, і Данчыку яшчэ раз дзякую за „Зорачкі', маю любімую песню з яго рэпертуару, якую выканаў на маю просьбу. Сьпяваў найбольш Сяржук, а спадар Паўло ледзь пасьпяваў падкладаць галлё ў агонь.

На трэці дзень з раніцы Юлін швагер Лёня, муж Кінусі, смажыў на спецыяльнай машынцы на двары „стэйкі', гамбургеры ды куранят у соусе „барбэк'ю'. Усім смакавала. Але ізноў трэба было вяртацца ў Нью-Йорк - на нашу пастаянную базу.

(Працяг будзе.)
**АДА ЧАЧУГА**
Фота аўтара

********************************************************************

фарбах, ідэалізую. Але пасьля пакутаў, якія я перад тым зазнаў у сваёй Магілёўшчыне, беларуская Беласточчына здалася мне раем. Адносна мірнае жыцьцё ў ёй, пагатоў **стваральная** праца ў выглядзе хоцьбы таго-ж настаўніцтва дзеялі на мяне дадатня і я, чалавек з усходняй Беларусі, захоплены ўсім новым, „заходнім", траціў здольнасьць крытычнага падыходу. У маёй памяці засталіся толькі прыгожыя моманты з майго нядоўгага побыту ў Беластоцкім Краі. Я заплюшчваў вочы на ўсё тое, што магло параніць параненую ўжо душу. Я засланяўся прыгожым, хоць за яго, за ціхамірнасьць і даверлівасьць да сьвету я плаціў і ўсё яшчэ плачу вялікую цану.

Вітаньне „Жыве Беларусь" і адказ на яго „Жыве", беларуская газэта з маімі ў ёй вершамі, саліднае настаўніцтва з прыгожымі настаўніцамі ў ім, беларускае вучнёўства, культурны мяшчанскі быт заходніх беларусаў, беларуская гаворка абуджалі ў мяне прыгожае адчуваньне, што і ты чалавек, абуджалі няўпрыкмяць у маёй душы беларуса.

Я згадаў тут мову. О, які гэта фактар! Зьдзіўлю, калі скажу, што жывую, народную, не літаратурную беларускую мову я ўпяршыню пачуў у Менскай турме ад падлетка-школьніка з заходняй, прыгранічнай Беларусі. У крыўдзе на бацьку ён перайшоў мяжу. Бацька за нейкае непаслушэнства даў яму дзягі, і хлапчына, закасаўшы свае штонікі, уквелены, перайшоў рэчку і няўзнак апынуўся ў Саветах. Быў я зьдзіўлены ягонай чысьцюсенькай, прыгожай беларускай мовай. Сам я паходжу з паўднёва-ўсходняга кутка Беларусі і гаворка там мяшаная, ня тыпова беларуская, пераходная. Я ведаў толькі беларускую літаратурную мову і быў абрадаваны, калі пачуў ад перабежчыка сапраўдную беларускую мову.

Вось-жа і Беласточчына зьявілася для мяне своеасаблівай моўнай рэзэрвацыяй: прыехаўшы з русіфікаванай усходняй Беларусі, я пачуў у Беласточчыне сапраўдную беларускую мову, як тады, у турме.

Заканчваючы гутарку пра школьніцтва ў Беласточчыне, нельга не прыгадаць такога адданага працаўніка на гэтай ніве, як Аляксей Грыцук. На ягоным абавязку ляжала арганізацыя, заснаваньне школьніцтва, практычнае ажыцьцяўленьне школьнай палітыкі Беларускага Аб'яднаньня. Ды ня толькі Грыцук. Сярод педагогаў Беласточчыны былі і іншыя спрактыкаваныя, дасьведчаныя, прафесійна добра падкаваныя людзі. Да ліку такіх педагогаў-метадыстаў залічаўся і кіраўнік беларускай школы ў самім Беластоку, старэйшы ўжо чалавек - не магу прыгадаць ягонага прозьвішча. Канешне, цягнуў школьную лямку і сам старшыня Аб'яднаньня, Хведар Ільляшэвіч, былы выкладчык беларускай гімназіі ў Вільні. Ня было таго дня, каб нехта не сядзеў у яго па школьнай справе - кіраўнік школы, настаўнік, настаўніца, старшыня адзьдзелу Аб'яднаньня. Усе яны чагосьці дамагаліся, прасілі ягонага заступніцтва, інтэрвэнцыі. Не стаў у баку і Тамашчык. Ягонае красамоўства, добрая нямецкая мова, нарэшце імпазантная фігура часам дадатня ўплывалі на вырашэньне таго ці іншага пытаньня на „вярхох', значыцца - у немцаў-акупантаў.

1991

*(Працяг будзе)*

# СПРАВА СЯДОВА

**( Працяг са стар. 4 )**

дапамаглі беларусы з Аўстраліі, таксама страйкавы камітэт рабочых Мінска.

Магчыма, што гэтая справа будзе апошняй кропляй, якая перапоўніць начынне цярпення.

Дахаты з Мінска вяртаўся я праз Гародню. Мытня ў Гародні - адна з візітных картачак савецкай сістэмы. Хопіць пабыць там толькі раз, пастаяць гадзін колькі ў чарзе, прыгледзецца да працы мытнікаў і міліцыянтаў, каб зразумець хоць адзін аспект таго неабдымнага савецкага кашмару, створанага Леніным супраць чалавека, распрацаванага ў дэталях, каб чалавека прынізіць, зламаць яго маральна, адабраць у яго годнасць. У гэткай сістэме Беларусь не чакае ніякая перспектыва...

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

**( Працяг са стар. 1 )**

„тутэйшыя". Няма такога народа - беларусаў. Як трэба было пашпарт, дык у анкеце напісаў: нацыянальнасць - беларус, родная мова - беларуская. Выклікалі мяне: „Такі малады кавалер... Запішыся палякам, пашлюць у акадэмію..." Я гавару: „Я сваёй нацыяй не гандлюю. Прэч!" І ведаеце, што зрабілі? Ніякай нацыянальнасці не паставілі. Прочарк. Да 39 года - ніхто. Я на ўсё жыццё запомніў прозвішча начальніка дзяржаўнай бяспекі - Тадэуш Юрэнтзайц.

**Д.:** - У Вас вельмі шмат твораў для дзяцей. А як можна супаставіць, што вакол Вас такая жорсткасць была і ў той час паэзія, і дзіцячыя вершы - чыстыя і светлыя?

**Н.:** - Гэта дзіўна. Я сам не ведаю, як чалавек, асуджаны на кару смерці, ствараў такія песні для дзяцей.

**Д.:** - Я трымаю ў руцэ Вашу кніжку, якая выдадзена ў Вільні. Гэта дзіцячая п'еса „Ёлка Дзеда Мароза". Як тут напісана: „Каляндарны абразок у адной дзеі, які напісаў Малады Дзядок."

**Н.:** - Тады, як быў у ссылцы, я мяняў псеўданімы. Я і Алесь Бярозка, і іншыя. Я адсылаў свае творы не з горада, а перадаваў на вакзале ў цягнік. Нехта нават напісаў: „У Слоніме жывуць паэты - Сяргей Пяюн, Малады Дзядок". Слонім - гэта месца маёй другой ссылкі. Я там пяць гадоў быў.

**Д.:** - Сяргей Міхайлавіч, ці не змаглі б вы крыху больш распавесці наконт сустрэчы з Янкам Купалам?

**Н.:** - Я сядзеў у кабінеце інспектара раяно. Нехта пастукаў. Зайшоў. У чорным паліто, у шэрым капелюшы, з блакітным гальштукам. Здымае галошы.

- Добры дзень!

- Добры дзень!

Я аслупянеў.

- Я Янка Купала.

Як на фатаграфіі. Божа мой!

- Тут некалі жыў, - кажа, - мой сябар Гальяш Леўчык. Ці жывы? Калі жывы, так дайце адрас.

- Жывы дзядзька Гальяш, - кажу.

- О, вершы. А хто вы?

- Сяргей Новік.

Прачытаў мой верш „Мая песня".

- Як вы сказалі?

- Сяргей Новік.

- А тут напісалі Пяюн.

- Гэта мой псеўданім. Дваццаць гадоў я пісаў пад гэтым псеўданімам.

- Ну, а цяпер можаш пісаць пад сваім прозвішчам.

- Мяне ўжо дваццаць гадоў ведаюць, як Пяюна.

- Пішы праз злучок. Новік-Пяюн. Паедзем да Гальяша. Во бачыш, якая машына ў мяне.

Пад'ехалі мы да доміка. Гэта будачка была, як чыгуначная. Выходзіць дзядзька. „Прымай госця, дзядзька Гальяш. Народны паэт Беларусі Янка Купала!"

- Ой - кажа. - Які ты Гальяш? Які ты бландзін зрабіўся! - і пагладзіў шавялюру.

- У Савецкім Саюзе не сівеюць...

- Ну, як жывеш, Гальяш?

- Бульба ёсць, запалка ёсць - вось так і жыву. Ну, а ты?

- Вось як прыедзеш да мяне ў госці, тады пабачыш. Выбачай, я спецыяльна ехаў з Беластоку, каб цябе наведаць. А я мушу сёння ўвечары быць яшчэ на мітынгу ў Мінску.

Я падпісаў сваю фатаграфію Янку Купалу.

- А я табе сваю дам тады, калі прыедзеш да мяне ў госці. Я прышлю табе запрашэнне на з'езд пісьменнікаў.

- У маім блакноце Янка Купала напісаў: „Міламу Сяргею Пеюну пад час сустрэчы ў Слоніме, 14 лістапада 1939 году."

**Д.:** - Ну, і сустрэча гэтая адбылася?

**Н.:** - Ён прыслаў мне запрашэнне. Сакратарка мне кажа: „Табе пісьмо ад Янкі Купалы". Я кажу: „Ніякага пісьма няма." Забраў гэта пісьмо той самы, каторы потым прадаў мяне пры немцах і сам паехаў па майму запрашэнню туды. Што пісаў да мяне Янка Купала, не ведаю. Як толькі я прыехаў з Калымы ў Менск, чую: „Ой,гэта вы? Як прыехаў




Купала тады, сказаў: „Ведаеце, цікавага хлопца сустрэў у Слоніме". І паказаў фатаграфію ў вашай кніжцы".

Я з верасня 1926 года быў у ссылцы, а 31 ліпеня 1931 года ссылка закончылася. Прыехаў дадому, паспаў толькі чатыры гадзіны і мяне зноў забралі- „бунтаўшчык прыехаў!" І вось сядзеў я ў адзіночцы.

**Д.:** - У трыццаць дзевятым годзе, калі Заходнюю Беларусь прыядналі да ўсходняй часткі, ці змянілася штонебудзь?

**Н.:** - 27 сакавіка 1939 года адчувалася нешта неспакойнае. Ноччу палякі забралі мяне ў баранавіцкую турму. А 14 верасня немцы бамбілі Баранавічы. А ўжо адна турма цэнтральная была перапоўнена беларусамі. Нас трымалі ў чыгуначных бараках. Суседні барак разбамбілі, а ў нас узрыўной хваляй вырвала акно з кратамі, і мы ўцяклі ў лес. Я быў паранены. Мяне падабрала санітарная машына і мяне перавезлі ў Слонім. „Во наш, кажуць, Пяюнок прыехаў."І мяне тады прызначылі інспектарам раяно. Там працаваў год, а пасля, па просьбе Стаброўскага Іосіфа Іосіфавіча, заснавальніка музея, мяне назначылі дырэктарам. А потым, у сорак першым годзе, у гэтым доміку быў заснаваны антыфашысцкі камітэт. Мы разам са Стаброўскім ратавалі музейныя экспанаты. У падвале мы зрабілі фальшывую сценку і там хавалі. Там у нас быў склад паперы, медыкаментаў для партызан. А потым, 25 лістапада 1943 года мяне арыштавалі. І я захварэў сыпным тыфусам. Загадалі вылечыць. Калі ўжо мог хадзіць, забралі ў турму і адправілі ў лагер смерці. Асуджаны на кару смерці ў адзіночнай камеры, я стварыў раманс „Белы снег".

4 ліпеня 1944 года нас гналі ад Баранавіч на Слонім. На дзевятым кіламетры на слонімскай шашы нам загадалі: „Па пяць чалавек пад рукі!" Адзін немец і двое рускіх (краснаармейцы, якія пайшлі да Уласава, ваенныя злачынцы) папярэдзілі партызан, што будуць весці вялікую групу. Нас шасцьсот чалавек вялі. Тут немцы шнапцыць гарэлку пачалі. Адзін кажа: „Во паразіты, здзекуюцца над нашым народам!" і крыкнуў: „Партызаны!" А партызаны ўжо засаду зрабілі. І ўсе уласаўцы перабеглі да партызанаў і давай біць немцаў. Вось мне папала тады касацельнай, але я не варушыўся. Другая куля прасвістала...

10-га прыйшлі савецкія войскі. Я разам з партызанамі прыйшоў у Слонім. І адразу пачалі васстанаўліваць разабраны музей, бібліятэку. А 14 снежня мяне без ордэра младшы лейтэнант Колаў арыштаваў і павёў.

20 мая 1945 года нас ужо везлі на Калыму. З нямецкага лагера ў савецкі. Мяне не судзілі, а вечную ссылку аб'явілі там. Спачатку быў на лесапавале. Пасля мы ў шахце золата дабывалі, а пасля ў ноч нас забралі на берлаг - берагавы лагер Алескіты. Мой нумар быў 17393 на шапцы і на спіне. І вось прабыў я там да канца пяцьдзесят трэцяга года. Потым мяне ўзялі працаваць у бальніцу. Кожны месяц трэба было адзначацца. Гэта было ў Магаданскай вобласці. Потым адну частку нас адправілі ў міравы полюс холада, там было па 70 градусаў марозу. Перавялі к Амікону. Потым урэшце амністыя. Далі... „сатрудніцтва з немцамі". - Як жа? - кажу. - Я сядзеў у лагеры смерці. Я з немцамі не сатрудніча\у! Усе пачалі ад'язджаць, а я не: - Пакуль мяне не рэабілітуюць, я нікуды не паеду. І нарэшце мяне рэабілітавалі поўнасцю. Надавалі грамат ганаровых. На курорт паслалі.

**Д.:** -Як ставіліся да Вас людзі, калі Вы вярталіся на Беларусь?

**Н.:**- Яны памяталі, якім я быў. Турма псуе слабых. А ў мяне сіла волі вялікая. Я веруў у збаўленне.

**Д.:** -А ці не было ў Вас азлаблення супроць людзей?

**Н.:** -Я азлаблення ні да каго не адчуваў, бо мяне згубіў адзін толькі чалавек і пры немцах, і цяпер. Ён цяпер ходзіць з ордэнам Айчыннай вайны, заслужаны пенсіянер.

**Д.:** - А ці часта Вы вяртаецеся да думак пра былое?

**Н.:** - Ведаеце, я - аптыміст. Мне здаецца, усё добра цяпер; і ўсё кепскае, і што добрае было. Усё ж такі я шчаслівы чалавек. Я паміраў ад голаду, пад бамбёжкай, ад хваробы - вытрымаў. Ніколі духам не падаю. І вось Стаброўскі вучыў ніколі не помсціць нікому. Я нікому не помсціў, нават ворагам. І тыя самыя, якія мне шкоду рабілі, да мяне пасля звяртаюцца за дапамогай. - Божа мой, - кажа мне Данчык. - І пасля ўсяго пражытага Вы ўсміхаецеся? Я гавару: - Ага. Данчык, ведаеш, у мяне невылячальная хвароба - каханне да бацькаўшчыны, Беларусі.

Размаўляў
**УЛАДЗІМІР ДАВЫДОЎСКІ**

# УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ

Невядомыя нам месцы апошняга спачынку большасці беларускіх адраджэнцаў, закатаваных у трыццатыя і пазнейшыя гады ў выніку сталінскай расправы з так званай „нацдэмаўшчынай". Як ушанаваць іх памяць, паставіць ім помнік, калі няма магілаў? Аб гэтым напісала нам **Аляксандра Бергман:**

„У 80-тых гадах, калі яшчэ жыў вядомы чытачам „Нівы" беларускі дзеяч Віктар Ярмалковіч, які напісаў біяграм ксяндза Адама Станкевіча для „Polskiego Słownika Biograficznego", я пабачыла здымак помніка кс. Адаму на магіле яго маці. В. Ярмалковіч расказаў, што кс. Станкевіч загінуў у лагеры ў Тайшэце. Некалькі гадоў пазней, у 50-тых гадах, дзякуючы намаганням Марыі Шутавічанкі на магіле маці ксяндза А. Станкевіча ў




Крэве (Смаргонскі раён) быў пастаўлены Яму надмагільны помнік. Грошы далі знаёмыя.

Гэты сімвалічны помнік сапраўды быў першы. Думаю, што такія помнікі можна паставіць у мясцовасцях, у якіх нарадзіліся або жылі вядомыя дзеячы.

Я не ўпэўнена, ці такіх помнікаў больш няма. Ведаю аб помніку сыну Б. Тарашкевіча - Радаславу. Паставіла яго на могільніку ў Радашковічах бабуля, але на помніку няма дадзеных аб Радаславе. Ці на могільніку ў Радашковічах нельга паставіць сімвалічны помнік самому Браніславу Тарашкевічу? А можа сям'я Рака-Міхайлоўскага (з жонкай і сынам Рагвалодам) паставіла б такі помнік, калі не ў Маладзечне, то хаця б на могільніку. Думаю, што жывуць людзі, якія іх памятаюць і дапамогуць увекавечыць іх памяць."

# НАША ПОШТА

**Паважаная рэдакцыя!**

Хачу звярнуцца да вас з невялікай просьбай. Дапаможыце, калі ласка, у пошуках хроснага маёй мамы і яе дваюраднага дзядзькі. Да вайны ён жыў у вёсцы Грынкоўшчына на Слонімшчыне. Потым апынуўся ў Польшчы, жыў там, пісаў нам да 1975 года. Лісты, мусіць, ішлі з Кракаўскага ваяводства. Называецца ён Павал Пракопавіч Шурко. Буду вельмі ўдзячны за кожную вестку.

Мой адрас: **231824, БССР, Гродзенская вобл., г. Слонім, вул. Патрыса Лумумбы, 45, Антонік Аляксандр Аляксандравіч.**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### ЛАГІЧНЫ АДКАЗ

Бацьку запытаўся Клім:
- Я хачу, каб ты прызнаўся,
Чаму ў дзённіку маім
Крыжыкамі распісаўся?

- Вось адказ лагічны мой:
Каб не разважала школа,
Што разумны бацька твой,
Толькі ты страшэнны ёлуп.

### НЕ БАРАН, А СВІНКА

- Расцеш ты, хуліган, -
Матуля лае сына, -
Мурзаты, як баран,
Ці іншая скаціна.

Адказвае Іван
На гэта праз хвілінку:
- Брудны, дык не баран,
Лепш назаві ўжо свінкай.

### У ЦЫРКУ

- А дзе ж ты быў учора? -
Спыталі дзеці Мірка.
- Я з брацікам Рыгорам
Ды з татам быў у цырку.

- А што ж ты там угледзеў?
- Шматлікія дзівосы:
І малпы, і мядзведзі,
І клаўна з п'яным носам.



Кармэна Буцкая ў Вільні *Фота М. Лукшы*

## Для самых маленькіх

Алесь Бадак

### МЫ КУПІЛІ КРАКАДЗІЛА

- Вы хадзілі?
- Мы хадзілі.
- Вы купілі?
- Мы купілі.
Сёння мы
З сястрычкай Зінай
Абышлі
Усе магазіны.
Мы хадзілі
Цэлы дзень.
Рыбак не знайшлі
Нідзе.
Ды затое
Там адзін
Прадаваўся
Кракадзіл!
Мы сабе яго
Купілі.
Дома ў ванну
Пасадзілі.
А пасля яшчэ
Туды
Напусцілі мы
Вады.
- А не маніце вы
Мне?
- Не!
Кракадзіла мы
Купілі,
Ды спытацца вось
Забылі,
Чым карміць яго нам
Можна:
Рыбай?
Кашаю?
Марожаным?
Кракадзіл
Прагаладаўся,
Раптам з ванны
Паказаўся.
Гэтак ляснуў ён
Зубамі -
Шыбы ў вокнах
Задрыжалі!

( Працяг на стар. 10 )

************************************************************************

Уладзімір Малашкевіч

# БЕТУЛЯ АЛЬБА



**Апавяданне**

У гэты дзень Юрка ўбачыў на панадворку незнаёмую жанчыну. Яна сядзела на новай лаўцы і ўважліва сачыла за бульдозерам, які раўнаваў ля школы пляцоўку. Жанчына заўважыла хлопчыка і паклікала яго да сябе.

- У які клас ходзіш? - запыталася яна, калі Юрка сеў побач.

- У пяты перайшоў, - ахвотна адгукнуўся хлопчык. - А што?

- Зараз праверым, чаму вас вучаць, - даволі сур'ёзна паабяцала сівая жанчына. - Паслухай загадку: першае - хворым на здароўе, другое - ад цемры святло, трэцяе - старым гаршкам пялёнкі, а чацвёртае - людзям калодзеж. Што гэта такое?

Колькі Юрка ні думаў, колькі ні паднатужваў сваю памяць, але так і не змог адказаць на гэтае пытанне.

- Паддаюся, - сумна прызнаўся.

- А я яшчэ збіралася пазнаёміць цябе з Марынкай, - з расчараваннем і папрокам прамовіла жанчына. І, можа, сама таго не ведаючы, закранула самае балючае месца хлопца. Раней Юрка жыў у вёсцы. Выхоўвалі яго баба з дзедам. Бацькі працавалі ў горадзе інжынерамі. І вось зусім нядаўна атрымалі сваю кватэру. У новым мікраражне. На дзевятым паверсе. Дом стаіць на высокім беразе Нёмана. Выглянуўшы ў акно, убачыш белы параход, які плыве па блакітнай стужцы ракі. А да неба дык можна рукой дастаць.

Юрку хочацца пра ўсё гэта расказаць каму-небудзь. Але ў яго яшчэ не завяліся знаёмыя і сябры. Вось ён сёння і выйшаў, каб пазнаёміцца з кім-небудзь. І яму гэта ледзь не ўдалося. Жанчына хацела пазнаёміць з нейкай Марынкай. Гэта нічога, што яна дзяўчынка. І дзяўчынкі трапляюцца хвацкія, не горш за хлапчукоў.

- Дык, гаворыш, не можаш адгадаць? - пахваліўся Юрка. - Гэта бярозавы сок. Праўда?

- Цябе як завуць?..

Хлопчык назваў сябе.

- А мяне - Вольга Максімаўна. Скажы, Юрка, у цябе душа не баліць, калі ты бачыш, як забіваюць „бетулю альбу"?

- Каго-каго?! - здзівіўся хлопчык і міжволі азірнуўся вакол.

- Навуковая назва бярозы - „бетуля альба". „Альба" - значыць, „белая".

- А як перакласці „бетуля"? - - А Марынка адгадала? - схітрыў Юрка.

- Тая ўсё адгадае, - мякка ўсміхнулася жанчына. - Добра, дапамагу табе. Вунь, бачыш... - і жанчына кіўнула ў бок зграбнай бярозкі.

- А пры чым тут „ад цемры святло"! - здзівіўся Юрка.

- З бярозы можна звязаць не толькі выдатны венік для лазні. Лучына з яе выдатная, не курыць. Пад час вайны ёю асвятлялі хаты. А можа, ты думаеш, што і тады падавалі электрычнасць? Ды і з посудам было ох як цяжка. Вось і звязвалі бяростай бітыя гаршкі.

- А пра калодзеж я сам здагадаўся, - пацікавіўся Юрка.

- Добра, што не саромеешся пытацца, - пахваліла Вольга Максімаўна. - Цікавасць вядзе да вялікіх ведаў. „Бетуля"- ад лацінскага слова, якое азначае „секчы", „біць". Гэта таму, што бярозавыя розгі са старажытных часоў выкарыстоўвалі як лекі супроць непаслушэнства. Цяпер розгаў у школе не трымаюць. І добра робяць. Хаця, хто яго ведае. Памятаю, як адзін настаўнік самых распусных і гультаяватых вучняў карміў „бярозавай кашай". Добрыя людзі з іх выйшлі. Але гэта было даўно.

- А чаму вы загаварылі пра „бетулю альбу"? - Юрка з прыемнасцю вымаўляў новыя словы.

- Вунь тую бярозку хутка бульдозер выкарчуе, - уздыхнула Вольга Максімаўна.

- Навошта? - яшчэ больш здзівіўся Юрка.

- Тут раней бялеўся бярозавы гай. Ад яго засталася адна бярозка.

- А куды дзеліся астатнія?

- Бульдозер выкарчаваў, запхнуў у роў і засыпаў зямлёю, - Вольга Максімаўна зноў горка ўздыхнула: - Такая прыгажосць прападзе. Каб магла хадзіць, да самага галоўнага начальства дайшла б, а бярозку адстаяла б.

Толькі цяпер Юрка зразумеў навошта ў руках жанчыны кіёк.

- Гэта ў вас з вайны? - Юрка кіўнуў на нагу.

- З вайны я, дзякуй богу, выйшла цэлая. Бяда здарылася на Цянь-Шані. Я ж батанік. З экспедыцыямі ўсю краіну аб'ездзіла. А вось у Азіі не пашанцавала. Калі-небудзь раскажу пра гэта.

- Я паспрабую, - рашуча ўзняўся Юрка і папраўў гузік на тэнісцы.

Вольга Максімаўна моўчкі глядзела, як хлопчык пераходзіць дарогу. За ёю пачыналася новабудоўля, на тэрыторыю якой пабочным заходзіць забаранялася. Таму нічога дзіўнага, калі Юрку адтуль прагоняць.

*(Працяг у наступным нумары)*

# ВУЧЫЦЬ АЗБУКУ ГУСАК

*Музыка Змітрака Яўтуховіча*
*Словы Леаніда Пранчака*

Вучыць азбуку гусак,
Задавака і дзівак.
Выхваляецца: „Гу-гу!
Я сказаць усё магу".
А нядаўна новы гук
Ён спасціг не без пакут:
Вымаўляе як артыст,
Шыю выцягнуўшы: „С-с-с!"
Дзеці добра гук той знаюць,
Як пачуюць, уцякаюць!

*Для другой вольты тэкст наступны:*

Крылы ўбокі: „Гы-гы-гы!"
Гэта значыць: „Дай вады!"
Змерзне дзюба ці нага, -
Ён гагоча: „Га-га-га!".




Беларускія гульні

## ЛЫКА

Двое дзяцей садзіцца на зямлю і ўпіраюцца ступнямі ног. Іншыя дзеці павінны прайсці, пераступаючы цераз іх ногі.

Ва ўсіх пытаюцца:
- Куды ідзеш?
- Па лыка!
- Ну ідзі!

Пасля таго як усе дзеці пройдуць па лыка, яны павінны, вяртаючыся назад, прабегчы паміж лаўцамі, якія сядзяць на кукішках, тыя ловяць дзяцей, не выходзячы з месца. Злоўленыя дзеці атрымліваюць штрафное ачко.




СССР, 279200, Республика Молдова, г. Бэлць, бульвар Лариса, 16, кв. 81. **Гарабажиу Алёна** (16 гадоў).

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Сушкова,д. 2. **Смоляниннова Елена**(13 гадоў).

# ЗАГАДКІ

## ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ

Белы, а не цукар, мяккі, а не вата, без ног а ідзе.

Без пілы, без сякеры, а масты будуе.

Не шкляны ён, не з металу, а прыслухайся - звініць, рые зямлю ён расталую.

У дрымучым лесе залатая дзяжа стаіць.

Каля вуха завіруха, а ў вушку - кірмаш.

Сонца пячэ, ліпа цвіце, жыта даспявае - калі гэта бывае?

Чырвоны каромысел праз рэчку павіс.

Калі няма - чакаюць, калі прыйду - уцякаюць.

Сыны ў шапках, а бацька - не.

Пляту хлявец на чацвёра авечак, а на пятую - асобна.

Прыслаў **В. Бабей.**

Адгадкі знойдзеш на старонках „Зоркі".




( Працяг са стар. 9 )

Пляснуў па вадзе
Хвастом -
Здрыгануўся
Нават дом!
Мы з сястрычкаю -
За дзверы,
І ўцяклі хутчэй
З кватэры.
Што, не верыш?
- Веру.
З кожным
Здарыцца такое
Можа.
Добра хоць,
Што за пятак
Не купілі вы
Кіта.
Яго ранкам
На вакзале
Гэтаксама
Прадавалі.






## КРЫЖАНКА

Крыжанка - птушка сям'і качыных, атрад гусепадобных. Крыжанка жыве ў Еўразіі, Паўночнай Амерыцы і Паўночна-Заходняй Афрыцы. На Беларусі крыжанка - самая пашыраная з рачных качак. Пералётная, часам зімуе на вадаёмах, якія не замярзаюць.

Крыжанка жыве на вільготных трысняговых і парослых вербалозам балотах, на поймавых азёрах, глухіх канавах, лясных рэчках і вадаёмах з багатай воднай раслiннасцю. Корміцца лісцем раскі, парасткамі шышняку, насеннем урэсту, драсёну, малюскамі, чарвямі, насякомымі і іх лічынкамі. У канцы лета начамі жыруе на збожжавых палях.

Даўжыня цела крыжанкі - 53-63 см, маса 0,7-1,44 кг. У самца вясной галава і шыя цёмна-зялёныя, бліскучыя, на шыі белы „ашыйнік", спіна і брушка шэрыя, падхвосце чорна-бурае, валлё карычневае, крылы карычнева-шэрыя, „люстэрка" сіне-фіялетавае, аблямаванае чорнай і 2 белымі палосамі. Дзюба зеленаватая, з узростам жаўцее. Лапы аранжавыя. Самка крыжанка бурая, з цёмнымі стракацінамі, „люстэрка" сіняе. Дзюба ружовая з цёмнай сярэдзінай. Самец летам падобны да самкі. Крыжанкі ліняюць у чэрвені-ліпені.

Крыжанка прылятае ў сакавіку-сярэдзіне красавіка. Гняздо (ямка на зямлі) высцілае сухой травой і пухам. Нясе 6-16 (пераважна 8-12) белых з зеленаватым ці аліўкавым адценнем яек у красавіку-маі. Наседжвае іх каля 24 сутак. Вывадкі з мая, праз 12-16 гадзін пасля вылуплівання качаняты бегаюць, плаваюць, ныраюць. Лётныя маладыя крыжанкі ў ліпені.

Крыжанкі ў гнездавы перыяд трымаюцца парамі, з канца жніўня збіраюцца ў чароды. Адлятаюць у верасні-кастрычніку. Зімуюць (птушкі, якія гняздуюцца ў Беларусі) у Францыі, Даніі, Галандыі, Англіі, Швейцарыі і Германіі.



## ВЕРШЫ АБ РОДНАЙ МОВЕ

НІНА ЗАГОРСКАЯ

Я не клічу вас:
„Людзі, глядзіце назад...
Ідзіце -
наперад! І вышай!.."
Толькі песні
продкаў сваіх
не забывайце!
Глядзіце, каб так не выйшла,
Што вы - бязродныя...
Хачу, каб заўсёды вы помнілі
наказы зямлі сваёй
роднае.
Беражыце зямлі галасы:
Беражыце
яе
песні,
што напоўнены звонам касы,
што былі нашай песняю
весняй...
... Песні мудрыя
Скарыны,
Афанасія словы -
з Бярэсця,
за свабоду сваёй стараны
і жыццё, што аддаў
за свабоду і шчырасць песні.
... Словы страсныя
Сімеона.
Сапегі і Рымшы песні.
Лукаша з Лявонам,
і Мілецця
шчодрыя весці.
„Не загіне слава бацькоў.
Не загіне „русінаў" мова", -
гэта светлая вера вякоў,
што Пашкевіч
выказаў словам.
У вянок вякі ўплялі
і паэзію Філалета.
... Праплывалі вякі па Зямлі,
пакідалі нам
песні.
Гэта продкаў сляды...
Не павінны ніколі гады
у нябыт тыя песні
звесці!!!
... Хачу, каб з вас кожны ведаў
песні роднае
Беларусі!
Ведаў
і сэрцам казаў:
„Песняй продкаў маіх
ганаруся!.."




## ВЫБАР

Маці кажа свайму пяцігадоваму сыну:
- Івасік, хутка бусел прынясе табе брацiка. Ты хочаш, каб гэта здарылася?
- Лепш няхай мой брацік прынясе мне бусла.

## ТРАПНЫ АДКАЗ

Пяцігадовы хлопчык адказвае па тэлефону:
- Мамы няма дома!
Потым, паглядзеўшы на бацьку, дадае:
- Але тут ёсць яе наменнік...

*З украінскай мовы пераклаў Валеры Бабей.*

Адгадкі: снег, мароз, ручай, сонца, пчолы, у ліпені, вясёлка, дождж, дуб і жалуды, рукавічка.







*Якія фігуры пазелення на аднолькавую колькасць частак?*

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

### 5. Сінонімы - працяг.

Сярод сінонімаў выдзяляюцца словаўтваральныя варыянты, г.зн. словы, якія ўтвораны ад адной і той жа словаўтваральнай асновы пры дапамозе розных словаўтваральных афіксаў. Такім спосабам узнікаюць словы з адным і тым жа або вельмі блізкім значэннем, напр.*сляпак - сляпень - сляпец - сляпук* маюць адно значэнне: сляпы чалавек, а словы *тупак - тупень* блізкія па значэнню: *тупак* значыць: нядбайны да навукі, а *тупень* - тупіца. Суфіксы, якія паслужылі для ўтварэння сінанімічных радоў, называюцца сінанімічнымі суфіксамі.

Беручы пад увагу напр. атрыбутыўныя назоўнікі, утвораныя пры дапамозе сінанімічных суфіксаў, у залежнасці ад сфер іх выкарыстання выдзяляюцца тры групы:1

1. Варыятыўныя рады, у якіх словам літаратурнай мовы адпавядаюць словы з сінанімічнымі суфіксамі народна-дыялектнай мовы, напр.: *ашуканец - ашукальнік; чужак, чужынец - чужнік.*

2. Варыятыўныя рады, у якія ўваходзяць словы, што адносяцца да лексічнага складу народна-дыялектнай мовы і не маюць адпаведных слоў у літаратурнай мове, напр.: *галавень - галавач* (чалавек з вялікай галавой), *лупач - лупей* (чалавек з вялікімі губамі).

3. Варыятыўныя рады, якія складзены са слоў з сінанімічнымі суфіксамі і зафіксаваны ў літаратурнай мове, напр.: *прыслужнік - прыслугач, хітрун - хітрэц.D*

„Варыянтнасць, сінанімія, функцыянальна-стылістычныя супастаўленні моўных адзінак (...) перасякаюцца, утвараючы разнастайныя камбінацыі. Напрыклад, сінанімія службовых афіксаў выклікае варыянтнасць слова: *дысконтавы - дысконтны, дыскоўка - дыскаванне*; сінанімія склонавых форм - варыянтнасць словазлучэнняў: *свісталі шпакі ў садах (па садах), плывуць па рэках крыгі - плылі ракою ільды'*.2

Асабліва ярка ўзаемасувязь структурных, сематычных і стылістычных змен назіраецца ў фразеалагізмах. У сучаснай беларускай фразеалогіі вылучаюцца наступныя фразеалагічн 0я варыянты:

- акцэнтныя: *гнуць спіну - гнуць спіну,*
- фанетычныя: *вастрыць зубы - гастрыць зубы,*
- фанематычныя: *бакі рваць - бокі рваць,*
- марфалагічныя, абумоўлены:

а) вар'іраваннем форм кампанентаў: *само сабой зразумела - само сабой разумеецца,*

б) словаўтваральнымі зменамі кампанентаў: *ляжаць у зямлі - ляжаць у зямельцы,*

в) сінанімічнасцю форм: *браць да галавы - браць у голаў (галаву),* - сінтаксічныя, якія зводзяцца да змен у сувязі і парадку слоў-кампанентаў: *у трубы віцца - трубою віцца, як кашаль хваробе - як хваробе кашаль,*

- кампанентныя: *давясці да торбы - давесці да пугі,*
- квантатыўныя, якія адрозніваюцца колькасцю кампанентаў: *хоць касою касі - хоць касі,*
- камбінаваныя, у якіх адзначаецца адразу некалькі змен: *і пальцам не зачапіць - не крануць і пальцам.*3

Фразеалагізмы могуць уступаць у сінанімічныя адносіны і ўтвараць сінанімічныя рады, напр.: лёгкадумны - *вецер у галаве, матылі ў галаве, віхар у галаве круціць, у галаве вецер свішча, ветрам падшыты, чортам падшыты*; хутка ўцякаць - *даць дзёру (дзерака, драла, драпака, лататы, цягу, цягі, цягака, пліту, цуба, цубака), браць ногі на плечы (у плечы), ногі ў рукі.*

У залежнасці ад функцыянальна-стылістычных паказчыкаў фразеалагізмы падзяляюцца на:

- агульнаўжывальныя: *сам не свой,*
- дыялектныя: *ні млён ні таўкач,*
- кніжныя: *кануць у вечнасць,*
- фальклорныя: *белы свет.*

---

1 В. А. Ляшчынская, Суфіксальная сінаніміка пры ўтварэнні атрыбутыўных назоўнікаў, у: Беларуская мова, вып. 5, Мінск 1977, с. 58 - 59.

2 З. А. Рудакоўская, Аб варыянтах і сінонімах, у: Беларуская мова, вып. 9, Мінск 1981, с. 103.

3 Там жа, с. 104 - 105.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.**

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| **3798. Раіса Самковіч (ЗША)** | **- 50 ам. дол.** |
| **3799. Язэп Баркоўскі (ЗША)** | **- 20 ам. дол.** |
| **3800. Сяргей Карніловіч (ЗША)** | **- 10 ам. дол.** |
| **3801. Марыя і Кастусь Верабей (ЗША)** | **- 20 ам. дол.** |
| **3802. Сяргей Карніловіч (ЗША)** | **- 20 ам. дол.** |
| **3803. Міраслаў Целушэцкі (ЗША)** | **- 10 ам. дол.** |
| **3804. Адольф Субота (ЗША)** | **- 10 ам. дол.** |
| **3805. Марыя і Леў Стагановічы (ЗША) (у гонар Аляксандра Стагановіча - мужа і бацькі)** | **- 100 ам. дол.** |
| **3806. Міхась Рагуля (ЗША)** | **- 50 ам. дол.** |
| **3807. Браніслаў Даніловіч (ЗША)** | **- 20 ам. дол.** |
| **3808. Пётр Нядзьвецкі (ЗША)** | **- 20 ам. дол.** |
| **3809. Васіль Стома (ЗША)** | **- 10 ам. дол.** |
| **3810. Людміла Бакуновіч (ЗША) (у гонар бацькоў Марыі і Віктара Вайтэнкаў)** | **- 50 ам. дол.** |
| **3811. Пётр Кажура (ЗША)** | **- 10 ам. дол.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:**
**Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42.**

**Тэлефон 30-16.**




Сэрцайка, я ўжо дарослая жанчына, у мяне ёсць свае дзеці, і я вельмі непакоюся за іх, успомніўшы сваю маладосць, а нават і дзяцінства. А цяпер жа яшчэ і горш: такое на свеце чаўпецца, што страх і на вуліцу выйсці. Звычаі, якія запанавалі сярод моладзі, будзяць нярааз агіду.

Мае першыя крокі ў сексуальнае жыццё таксама былі нецікавыя. Здарылася гэта, калі мне было ўсяго 9 гадоў. Быў у нас настаўнік танца. Я яшчэ ў сексуальных справах, можна сказаць, нічога не разумела. І вось аднойчы ён пасля заняткаў падвозіў мяне дахаты на сваёй машыне. Замест дахаты, падвёз мяне...да сябе на кватэру. Сказаў, што забыўся нешта ўзяць з дому. Там пачаставаў мяне цукеркамі, быў вельмі мілы. Пасля прытуліўся да мяне і пацалаваў.

Усё гэта рабіў ён неяк так абаяльна, што мне было нават прыемна. Перапякалася я толькі тады, калі пачаў ён сцягваць з мяне штаны. Я хацела ўцякаць, прасіла яго, каб завёз мяне дахаты, бо бацькі будуць непакоіцца. Нічога не памагло. Ён так загарэўся да мяне, што ўжо не панаваў над сабой. Я засталася толькі ў блузачцы, а ён распрануўся дагала і пачаў дакранацца да мяне сваім пенісам. Праўда, ён не пазбавіў мяне дзявоцтва, таму што рабіў гэта толькі паверсе, відаць, ашчаджаючы мяне, яшчэ зусім дзяўчынку, ад большых прыкрасцей.

А я адчувала толькі страх і агіду. Не ведаю, чаму ён гэта зрабіў: ці меў нейкія адхіленні ад нормы ў сексуальных адносінах, ці так закахаўся ў мяне... А ці ж можна закахацца ў 9-гадовую дзяўчынку, якая яшчэ не патрапіць адчуць тое, што дае ёй нават найлепшы каханак?..

У кожным выпадку пасля гэтага здарэння гадоў пяць я абмінала мужчын здалёк, а з танцаў, вядома, мусіла зрэзыгнаваць, каб не сустракацца са сваім настаўнікам.

А пасля ў маім жыцці былі другі выпадак, які амаль не скончыўся для мяне трагічна. Было мне тады ўжо 16 гадоў. Я вярталася са школы. Яшчэ не было позна, але ўжо сцямнела. Была зіма. Я ішла каля будуючайся бальніцы, навокал не было нікога. Раптам як з-пад зямлі вырасла пяцёра маладых мужчын. Навалілася на мяне, кінуўшы ў снег, пачалі ўжо сцягваць штаны. Але мне пашанцавала.

Нехта надыйшоў, і бандыты, якія хацелі мяне згвалціць, уцяклі. Заплаканая, пазбіраўшы са снегу рассыпаныя кніжкі, я неяк вярнулася дахаты.

Толькі ў 20 гадоў я пазнаёмілася з хлопцам, якога пакахала і якому аддалася. Зрэшты, ён стаў маім мужам. Дзіву даюся, як яшчэ мне ўдалося данесці да яго сваё дзявоцтва.

Сёння ж такія справы, як я чую, на парадку дня. Што будзе з маімі дзецьмі?

**Лена**

Шаноўная Лена! Мо і тваім дзецям неяк удасца. Такіх людзей, бандытаў, можна сказаць, якія сустрэліся на тваёй дарозе, не бракуе ніколі, а цяпер мо іх яшчэ пабольшала. Трэба заўсёды памятаць аб гэтым. Твой настаўнік танцаў, на жаль, таксама быў бандытам, калі не мог паўстрымаць свайго сексуальнага пажадання ў адносінах да дзіцяці. У Еўропе - 9-гадовая дзяўчынка гэта яшчэ дзіця. Не тое, што ў цёплых краінах.

**СЭРЦАЙКА**




## КРАКЕТЫ З СЕЛЯДЦОЎ І БУЛЬБЫ

На 2 шклянкі варанай стоўчанай бульбы трэба ўзяць 1 салоны селядзец, 1 цыбуліну, 2 лыжкі масла, 1 яйка, 1 лыжку сцертага жоўтага сыру, муку, сцертую булку, тлушч.

Вымачаны селядзец змалоць або дробна пасячы. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на масле. Бульбу перамяшаць з цыбуляй, селядцом, яйкам, сырам і такой колькасцю мукі, каб кракеты не развальваліся. Рабіць шарыкі, паніраваць іх у бялку, збітым з лыжкай вады, і ў сцертай на тарцы булцы. Кракеты смажыць на патэльні з вялікай колькасцю разагрэтага тлушчу.

Падаюць кракеты з таматным або белым соусам, з кіслымі агуркамі або марынаванымі грыбамі.

Можна яшчэ з гэтага цеста рабіць катлеты. Адрозніваюцца яны толькі па форме. Іх мачаюць у муку і смажаць на патэльні, а падаюць таксама з нейкім соусам ці салатай.

## КАТЛЕТЫ З БУЛЬБЫ І МЯСА

На адну шклянку сцертай сырой бульбы даем 2О дэкаў змеленага мяса, 1 цыбуліну, соль, перац, тлушч, смятану, зеляніну.

Бульбу перамяшаць з мясам, дробна нарэзанай і падсмажанай цыбуляй, соллю і перцам. На патэльні разагрэць тлушч, палажыць лыжкай катлеткі і смажыць іх з абодвух бакоў, пасля чаго заліць смятанай, накрыць і падаграваць яшчэ мінут 10 на маленькім агні або ў не вельмі гарачай духоўцы.

Катлеты падаюць з тушанай гароднінай або зялёнай салатай.

**ГАСПАДЫНЯ**




Астроне, я паехала адпачываць на Мазуры. Здаецца, умовы там былі вельмі добрыя, але мне ўначы зусім не спалася. Сніліся штоноч нейкія кашмары.

Асабліва мне запамятаўся адзін сон. Быццам я еду на сваёй машыне. Пад'язджаю да нейкага магазіна, выходжу з машыны, пакідаючы там усе свае рэчы і сумку, а бяру толькі кашалёк з грашыма і іду ў магазін. Увесь час мяне праследуе ў сне прадчуванне, што здарыцца нейкая бяда. І як жа! Выходжу я з магазіна, а машыны няма. Яе ўкралі з усімі рэчамі, якія былі ў сярэдзіне. Я іду далей па вуліцы, мо дзе мая машына стаіць... Але ж бачу, што пасярэдзіне вуліцы вялікая яміна, як бы вырваная якімсьці выбухам. Ага, тут жа была аўтамабільная катастрофа: стукнулася аж сем машын. Яны да такой ступені разбіты, што кузаваў амаль няма, а засталіся толькі падвоззі.

Астроне, думаю, што мой сон прадвяшчае нешта кепскае, нейкую катастрофу. А як ты думаеш?

**Ганя**

Ганя! Думаю, што ў цябе нейкія клопаты з сэрцам і ты павінна звярнуцца да кардыёлага. Такія пастаянныя сонныя кашмары часта сведчаць аб хваробах сэрца.

**АСТРОН**

***

У Адэсе тоне чалавек і крычыць:

- Help me! Help me! (Памажыце! Памажыце!).

На беразе стаіць мужчына і лузае семачкі. Да яго падыходзіць чалавек і пытае:

- А што гэта здарылася?

- Так вось, калі ўся Адэса вучылася плаваць, гэты... вывучаў англійскую мову...

## „ДАСТАВАЙ, ЯЗЭП, ГАРМОНІК"

*Музыка З. ЯЎТУХОВІЧА.*
*Верш Л. ПРАНЧАКА.*

Дым кастра духмяна-горкі
Над азёрамі паўзе.
У затоках дрэмлюць зоркі,
Бы лілеі на вадзе.
Не сумуй, мая сяброўка,
Палыновых слёз ня лі -
Завяршаецца вандроўка
Па вадзе і па зямлі

ПРЫПЕЎ:

Даставай, даставай,
Даставай, Язэп, гармонік!
Вечар сцеле туманы.
Заіграй, заіграй,
Заіграй, а мы ўспомнім
Дні без тлуму і маны.

Успрымаецца іначай
Слоў ды спраў былых вага.
З беспрытульнай стала нашай
Жураўліная туга.
Так усё няскладна выйшла,
Так імкліва час прабег...
Хваляваліся за іншых
І забылі пра сябе.

ПРЫПЕЎ.

Развітацца не паспелі,
Развітацца не змаглі,
Не сказалі, што хацелі,
Што на потым берaглі...
Трыснягоў таемны шолах
Сумам сэрца апячэ...
На Браслаўскіх на азёрах
Мы сустрэнемся яшчэ!

ПРЫПЕЎ.










## КАСЕТЫ
**(Гумарэска)**

Сямікласнік Чэсь Чаплюк зайшоў у нарыхтоўчы ларок і аж прысвіснуў ад нечаканасці: на паліцы ляжалі магнітафонныя касеты - бліскучыя, японскія. Ён ведаў, што ў такіх магазінах за грошы дулю купіш, таму пацікавіўся ў прадаўца:

- На анучы?

- На каляровы метал, - адказаў той, азірнуўся на паліцу з касетамі, паправіў іх.

- А мо на яйкі?

- План па яйках выканалі. У трэцім квартале. Па каляроваму металу ідзём з адставаннем. Конаўкі медныя, тазікі, чыгункі алюмініевыя давай...

- Чыгункоў мы вам нацягаем, - узнёсла мовіў Чэсь і кінуўся да свайго сябра Паўла Пятушка.

Але, як кажуць, не кажы „гоп", пакуль не пераскочыў. Абышлі хлопцы ўсё мястэчка, і толькі ў адной бабулі разжыліся шчарбатым трохлітровым чыгунком.

А касеты ім былі патрэбны дазарэзу. Яны займеюць такія запісы, што дзесяцікласнікі аж пасінеюць з зайздрасці. Але дзе ўзяць той каляровы метал? Дзе?

Увесь дзень бадзяліся па вуліцах, прыглядаючыся, дзе што кепска ляжыць. Ляжала шмат што кепска, але звычайная арматура, рознае жалязззё. На звалцы знайшлі абломкі медных трубак, дзіравую біклагу, нейкія дэталі ад бронзавай свяцільні. Гэтага было яўна мала.

- Эўрыка! - нарэшце ўскрыкнуў Павел. - У гаспадарчы магазін!

На сэканомленыя на абедах і выдаткаваныя на кішэнныя расходы грошы купілі восем трохлітровых алюмініевых чыгункоў і пацягнулі ў нарыхтоўчы магазін.

- Што гэта? - строга глянуў прадавец.

- Метал. Каляровы...

- Ка-а-ляровы мета-ал! - перадражніў прадавец. - Гэта новая прадукцыя. Мне за такі метал накастыляюць - жыць не захочацца. Праз гадоў пяць - дзесяць прыносьце. Як зварыце ў іх тон пяць капусты...

- Касеты ж не будуць чакаць пяць гадоў, - расчаравана мовілі хлопцы. - Яны нам сёння во як патрэбны!

- Не ведаю... - няпэўна адказаў прадавец. - Калі патрэбны - метал шукайце.

Засмучаныя хлопцы пацягнулі чыгункі не ведаючы, што з імі рабіць. Брылі моўчкі, адварочваючы вочы ад цікаўных прахожых. Аж раптам!...

Праз паўгадзіны былі яны ў ляску. З надзвычайным імпэтам узяліся цягаць галлё на вогнішча. Калі яно зашугала як след, пакідалі туды свае чыгункі. Праз нейкі час яны закурэлі, пакрыліся сажай, а два - дык увогуле прыселі, падобна, сабраліся расплавіцца.

- Во цяпер іншая справа! - падміргнуў нарыхтоўшчык, калі яны прыцягнулі ўчарнелыя чыгункі да прылаўка. - Малайцы, рабяты, карысную справу зрабілі для нашай металургіі, нашай народнай гаспадаркі. Во вам касеты, слухайце музыку, весяліцеся...

**ІВАН ПЯШКО**
*(„ Вожык " )*

## КАЛІ ЛЕПШ?
*(аўтэнтычнае)*

Усе, хто жыў у Беластоку ў саракавых і пяцідзесятых гадах і абагравaў кватэру печамі, памятаюць дырэктара склада з апалам Зыберблата. Старэйшыя людзі памятаюць таксама, што пры ім не было клопатаў з вугалем, а ён сам стараўся, каб нават дроў на падпалку ўсім хапіла. Гандляр і дырэктар з яго быў выдатны.

Аднойчы дырэктар разгубіўся (а можа і не?) і памыліўся ў рахунках на сваю карысць. Вестка дайшла ў міліцыю. Выклікалі Зыберблата ў Ваяводскае праўленне на допыт. Ужо пасля падпісання пратакола афіцэр, які быў перакананы, што ў сацыялізме ўсім жывецца лепш, запытаў:

- Скажыце, грамадзянін Зыберблат, але толькі шчыра, гэта не будзе запісана ў пратакол, калі вам лепш жылося - пры санацыі, ці цяпер?

- Вы следчы афіцэр ці правакатар?! - выкрыкнуў Зыберблат. - Народная ўлада дала вам пасаду, а вы хочаце яе кампраметаваць у вачах грамадства! Я, пане афіцэр, пры народнай уладзе зарабляю аж тры з паловай тысячы злотых, а пры санацыі зарабляў усяго тры!

Сказаўшы гэта, Зыберблат іранічна ўсміхнуўся, устаў з крэсла і пакінуў пакой следчага.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**



## ЧАЦВЁРТАЯ НАГА

Быў Стол, якому са старасці адвалілася адна нага. Нявыгадна стаяць на трох нагах, і, карыстаючыся правамі інваліда II катэгорыі, Стол звярнуўся ў адпаведную ўстанову з просьбай надзяліць яму неадплатна новую нагу.

Чыноўнік, якому Стол прадставіў сваю справу, насцярожыўся і спытаў:

- Нашто вам чацвёртая нага? Ці не хопіць вам трох, так як іншым?

Кульгаючы, Стол адышоў з установы з нічым. Яму не пашанцавала. Трапіў на чыноўніка з Аддзялення фартэпіяна.

*(„ Karuzela" )*

********************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- sierpień - 8.000 zł.
- wrzesień - 10. 000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.